# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## РАДЫ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## РАДЫ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

---

## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ

САЮЗУ ССР

№ 1. -13

АРТЫКУЛЫ
1—44.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## РАДЫ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## РАДЫ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК



**ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ**
**РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ**
**САЮЗУ ССР**

№ 1.

АРТЫКУЛЫ
1—44.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

### 1. Выбраньне камісіі для выпрацаваньня палажэньня аб РНК, РПА і Наркаматах Саюзу ССР.

Утварыць камісію для выпрацаваньня палажэньня аб Радзе Народных Камісараў (РНК), Радзе Працы і Абароны (РПА) і наркаматах Саюзу ў наступным складзе:

Калінін,
Сапронаў,
Чэрвякоў,
Мдзівані,
Рыкаў,
Пятакоў,
Енукідзе,
Цурупа,
Курскі,
Андрэеў,
Аванэсаў,
Белабародаў,
Ногін,
Ракоўскі,
Мануільскі.

Даручыць камісіі выпрацаваць проэкты палажэньняў РНК і РПА.

Прапанаваць наркаматам РСФСР:

ваенных і марскіх спраў,
замежных спраў,
замежнага гандлю,
почт і тэлеграфаў,
працы,
работн.-сялянскае інспэкцыі,
харчовых спраў,
вышэйшае рады народнае гаспадаркі,
грашовых спраў,

падаць памянёнай камісіі, не пазьней 10 лютага г. г., проэкты палажэньняў аб сваіх наркаматах.

Скліканьне камісіі даручыць т. Калініну, а ў адсутнасьці т. Калініна—т. Енукідзе.

Даручыць Камісіі да 1-га сакавіка 1923 г. падаць у Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу палажэньні аб РНК, РПА і памянёных вышэй наркаматах.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 студзеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

### 2. Выбраньне бюджэтнай камісіі.

Утварыць бюджэтную камісію ў наступным складзе т. т.:

Рудзутак Я. Э.,
Рогаў М.,
Сьмірноў В. М.
Владзіміраў,
Пятакоў,
Фрунзе,
Мдзівані,
Позэрн,
Чэрвякоў,
Хінчук,
Шмідт,
Праўдзін,
Ногін,
Карасёў,
Тэр-Эгізар'янц,
Лепсэ,
Сьвідэрскі,
Тэр-Габрыэлян.

Старшынёй камісіі зацьвердзіць т. Рудзутака, даручыўшы яму скліканьне камісіі.

Памянёнай камісіі даручыць выпрацаваць і падаць у Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу, не пазьней 10 лютага 23 году палажэньне аб бюджэтнай камісіі й парадак разгляду бюджэту.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 студзеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**3.** **Выбраньне камісіі для выпрацаваньня палажэньня аб найвышэйшым судзе пры ЦВК'у Саюзу ССР і аб'яднаным органе ДПУ пры РНК Саюзу ССР.**

Утварыць камісію для выпрацаваньня палажэньня аб найвышэйшым судзе й аб аб'яднаным органе ДПУ ў наступным складзе т. т.:

Сьмірноў А. П.,
Крыленка,
Уншліхт,
Мануільскі,
Тэр-Габрыэлян,
Белабародаў,
Мдзівані.

Старшынёй камісіі выбраць А. П. Сьмірнова, дaручыўшы яму скліканьне камісіі.

Памянёнай камісіі даручыць кончыць свою працу й падаць матар'ялы ў Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу да 10 лютага г. г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**4.** **Выбраньне камісіі для апрацаваньня дзяржаунага сьцягу й гэрбу Саюзу ССР.**

Арганізаваньне камісіі для апрацаваньня дзяржаўнага сьцягу й гэрбу даручыць сэкратарыяту ЦВК'у Саюзу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 студзеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**5.** **Пастанова аб выбраньні камісіі для апрацаваньня палажэньня аб Цэнтральным Выканаучым Камітэту Саюзу й аб яго сябрах.**

(Падстава: пастанова 1 сэсіі ЦВК СССР.).

Утварыць камісію для выпрацаваньня палажэньня аб Цэнтральным Выканаўчым Камітэту Саюзу, ў наступным складзе т. т.:

Сапронаў,
Курскі,
Крыленка,
Аванесаў,
Енукідзе,
Тэр-Габрыэлян,
Кон Фелікс.

Скліканьне камісіі даручыць т. Енукідзе. Прапанаваць памянёнай камісіі кончыць сваю працу і падаць проэкт палажэньня Прэзыдыуму ЦВК Саюзу да 10 лютага г. г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР.* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 студзеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**6.** **Пастанова аб выбраньні камісіі для складаньня проэкту арганізаваньня наркаматау, з мэтаю падачы на зацьверджаньне красавікоускай сэсіі ЦВК'у Саюзу.**

(Паст. I сэсіі.)

Утварыць Камісію для складаньня проэкту пабудаваньня кіраўнічых органаў Наркаматаў і вызначэньня пэрсанальнага складу наркаматаў, у наступным складзе т. т.:

Калінін,
Пятроўскі,
Сталін,
Рыкаў,
Каменеў,
Цурупа,
Томскі,
Кон Фелікс,
Чэрвякоў,
Мяснік'ян,
Енукідзе.

Прапанаваць памянёнай камісіі падаць проэкт пастановаў водлуг паказаных даручэньняў у Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу не пазьней 10 лютага 1923 г.

Скліканьнэ камісіі даручыць т. **Рыкаву.**

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР.* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

10 студзеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**7.** **Пастанова аб арганізаваньні Цэнтральнага Навуковага Інстытуту Сельскае Гаспадаркі.**

Даручыць т. Якавенцы тэрміновым чынам апрацаваць на падставе пастановы З'езду Саветаў Саюзу ССР проэкт арганізаваньня Цэнтральнага Інстытуту Сельскае гаспадаркі й падаць на зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР.* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Масква—Крэмль.
10-га студзеня 1923 г.

---

**8.** **Пастанова аб Доме Саюзу ССР у г. Маскве.**

Даручыць Камісіі ў складзе т. т.:

Калініна,
Каменева,
Пятроўскага,
Чэрвякова,
Нарыманава,
Красіна,
Куйбышава,
Томскага,
Сапронава,
Енукідзе,
Тэр-Габрыэляна,

апрацаваць проэкт зьдзейсненьня пастановы 1-га З'езду Саветаў Саюзу аб пабудаваньні Дому Саюзу ССР ў г. Маскве.

Скліканьне камісіі даручыць т. **Каменеву.**

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР.* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Масква—Крэмль.
10-га студзеня 1923 г.

## 9. Аб далейшай працы Камісіяў ЦВК Саюзу ССР.

Усе працы камісіяў ЦВК Саюзу ССР лічыць скончанымі.

Камісіі: бюджэтная, для вызначэньня пэрсональнага складу наркаматаў і для арганізаваньня дому Саюзу ССР—працуюць на ранейшых падставах.

Утварыць новую пашыраную камісію ў складзе 25 сяброў з прадстаўнікоў ад усіх саюзных ЦВК‘аў, у якую перадаць усе матар‘ялы папярэдніх камісіяў.

Склад камісіі ЦВК Саюзу ССР для выпрацаваньня конституцыі Саюзу ССР, абранай на першым пасяджэньні Прэзыдыуму ЦВК Саюзу, лічыць асноваю пашыранай камісіі, ў якую ўключыць 10 новых сяброў у наступнай прапорцыі:

| | | |
|---|---|---|
| Ад | РСФСР | 4 |
| „ | УССР | 2 |
| „ | БССР | 2 |
| „ | ЗСФСР | 2 |

Ухваліць прапазыцыю т. Ракоўскага, што сябрамі камісіі могуць быць ня толькі сябры Прэзыдыуму Саюзнага ЦВК, але й сябры ЦВК Саюзу, а так сама асабіста ўпоўнаважаныя для працы ў камісіі прадстаўнікі па-асобных ЦВК‘аў саюзных рэспублік.

Абавязаць прэзыдыумы Саюзных ЦВК‘аў выявіць сваіх кандыдатаў у камісію не пазьней 10 траўня г. г.

Даручыць сэкратарыяту ЦВК Саюзу разаслаць усе матар‘ялы, што тычацца працы камісіі, ЦВК‘ам саюзных рэспублік, запрапанаваўшы ў сваю чаргу ўсім прэзыдыумам саюзных ЦВК‘аў і паасобным іх сябрам падаць не пазьней 20 траўня свае ўвагі водлуг матар‘ялаў камісіі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Масква—Крэмль.
27 красавіка 1923 г.

---

## 10. Адозва ЦВК Саюзу да народаў і ўрадаў усяго сьвету.

Ад самага пачатку істнаваньня савецкіх рэспублік іх злучалі адносіны цеснага супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі, якія прынялі пасьля форму саюзных умоваў. Улада рабочых і сялян зьвязвала іх у адно цэлае агульнымі патрэбнасьцямі змаганьня супроць навалы на іх з вонку капіталістычных дзяржаваў і супроць пакусы хатняй контр-рэволюцыі на савецкі лад. Солідарнасьць працоўных злучала іх у агульнай задачы ажыцьцяўленьня братэрскага супрацоўніцтва вызваленых народаў. Яны разам выйшлі з неперaможнай пролетарскай рэволюцыі, якая зьнішчыла ў іх уладу землеўласьнікаў-паноў і капіталістаў-багатыроў. Яны разам падпадалі цяжкому гістарычнаму апрабаваньню інтэрвэнцыі і блёкады, змагарна яго вытрымалі. Яны разам распачалі вялізманую працу адбудовы народнай гаспадаркі на грунце новага эканамічнага ладу, пасьля пяражытых імі нячуваных бядот.

Па братняму дапамагаючы што-дня адна-аднэй усімі сваімі сіламі й сродкамі, яны, адылі, доўгі час заставаліся хоць і зьвязанымі саюзнымі умовамі, але ўсёжткі асобнымі дзяржавамі.

Далейшае разьвіцьцё іх узаемных адносінаў і патрабаваньні міжнароднай абстаноўкі прывяло іх цяперака да злучэньня ў адну саюзную дзяржаву.

Узмацненьне сусьветнай рэакцыі і агрэсыўных (навальных) імкненьняў імпэрыялістычных урадаў, а так сама зьвязаная з гэтым пагроза новымі навaламі выклікаюць няўхільнае злучэньне абарончых сілаў усіх савецкіх рэспублік у руках аднаго саюзнага цэнтру (асяродку).

У той жа час гаспадарчае будаўніцтва на разбураных вайной, інтэрвэнцыяй і блёкадай абшарах савецкіх рэспублік зьяўляецца непасільным заданьнем без аб‘яднаньня іх высілкаў і можа з посьпехам ажыцьцяўляцца толькі пры пляновым кіраўніцтве з адзінага гаспадарчага цэнтру ўсяго Саюзу.

Самая прырода рабоча-сялянскае ўлады, пры паступовым разьвіцьці і ўзмацненьні новага ладу ў савецкіх рэспубліках, у памеры ўзрастаньня піхае іх да аб‘яднаньня і сутокі сваіх высілкаў, накіраваных да аднае агульнае мэты.

На З‘ездах сваіх Саветаў, якія нядаўна адбыліся, народы савецкіх рэспублік адзінадушна вырашылі ўтварыць Саюз Савецкіх Социалістычных Рэспублік, адзіную саюзную дзяржаву. Гэтае аб‘яднаньне роўнапраўных народаў застаецца самахотным, якоя адхіляе нацыянальны прыгнёт і прымус якога-колечы народу быць у межах гэтае дзяржавы, даючы кожнай рэспубліцы права вольнага адлучэньня ад Саюзу і ў той жа час адчыняючы самахотнае далучэньне ўсім социалістычным савецкім рэспублікам, так сама маючым узьнікнуць у будучыне.

6-га ліпеня Дэклярацыя й Умова, ухваленыя увашоўшымі ў Саюз савецкімі рэспублікамі, былі зацьверджаны і ўведзены ў чыннасьць Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу.

Дзеля патрэбы для савецкіх рэспублік злучыць свае сілы на абарону ад знадворных навалаў, распачынае чыннасьць адзіны агульна саюзны Ваенны і Марскі Народны Камісарыят.

Дзеля таго, што заданьні і патрэбнасьці савецкіх рэспублік перад тварам капіталістычных дзяржаваў агульна-родны, ўтворан адзіны агульна саюзны Народны Камісарыят Замежных Спраў.

Патрэбнасьць поўнай цэнтралізацыі ў вядзеньні замежнага гандлю на грунце дзяржаўнай манаполіі для абароны Савецкіх рэспублік ад спроб капіталістычных дзяржаваў іх падняволіць, прымусіла іх утварыць адзіны агульна-саюзны Народны Камісарыят Замежнага Гандлю.

Плянамерная пастаноўка народнае гаспадаркі патрабуе ад іх аб‘яднаньня транспарту і сувязі, г. значыцца ўтварэньня агульна-саюзных Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін і Народнага Камісарыяту Почт і Тэлеграфаў.

Іншыя галіны дзяржаўнай чыннасьці саюзных рэспублік часткова падлеглы саюзным цэнтрам, пры

захаваньні ў кожнай рэспубліцы свайго цэнтру, часткова застаюцца выключна ў руках асобных рэспублік.

Безпасрэднае кіраваньне народнай гаспадаркай і грашыма, арганізацыя справы харчовай, дзяржаўная абарона правоў і інтэрасаў наёмнай працы й ажыцьцяўленьне работніцка-сялянскага кантролю над усім дзяржаўным апаратам будзе аднача́сна знаходзіцца ў руках і агульна-саюзнага цэнтру, наколькі ім патрэбна кіраваньне з адзінага цэнтру і асобных цэнтраў у кожнай саюзнай рэспубліцы, наколькі на абшарах апошніх для іх патрэбна асобнае кіраваньне.

Камісарыяты, якія ставяць сабе спэцыяльна нацыянальныя заданьні, маючыя дачыненьне да нацыянальна-бытовых адносінаў і асаблівасьцяў, як, напр. асьвета, земляробства, ўнутраныя справы, юстыцыя і г. д., будуць істнаваць толькі ў саюзных рэспубліках, пад іх безразьдзельным кіраўніцтвам.

Адзінства волі працоўных грамадаў усяго Саюзу выяўляецца ў яго найвышэйшым органе—Агульна-Саюзным З'езду Саветаў, але аднача́сна кожнай нацыянальнасьці даецца асобнае прадстаўніцтва ў Радзе Нацыянальнасьцяў, якая будзе супрацоўнічаць на роўных правох з Саюзнай Радай, якая выбіраецца З'ездам.

Утвораная, гэткім чынам, на грунце братэрскага супрацоўніцтва народаў савецкіх рэспублік, саюзная дзяржава стаўляе сабе мэтай захаваньне ціхамірнасьці з усімі народамі. Роўнапраўныя нацыянальнасьці ў цеснай узаемачыннасьці і супольнай працы будуць плечы ў плечы разьвіваць сваю культуру й дабрабыт і ажыцьцяўляць заданьні ўлады працоўных.

Зьяўляючыся прыродным хаўрусьнікам прыгнечаных народаў, Саюз Савецкіх Социялістычных Рэспублік шукае з усімі народамі ціхамірных і сяброўскіх адносінаў і эканамічнага супрацоўніцтва. Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ставіць сабе мэтай дапамагаць інтэрасам працоўных усяго сьвету. На вялізманым прасьцягу ад Бальтыцкаго, Чорнага і Белаго мора да Ціхага акеану, ён ажыцьцяўляе братэрства паміж народамі і царства працы, імкнучыся ў той жа час да таго, каб дапамагаць згоднаму супрацоўніцтву народаў усяго сьвету.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. І. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**11.** **Паведамленьне усім ЦВК ам саюзных рэспублік аб пачатку працы Прэзыдыуму ЦВК' Саюзу ССР.**

Зацьвердзіць і разаслаць усім ЦВК'ам саюзных рэспублік у наступным выглядзе:

«Гэтым даводзіцца да вашае вядомкі, што Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, выбраны першай сэсіяй ЦВК'у Саюзу ССР, водлуг паўнамоцтваў, якія яму другая сэсія ЦВК'у Саюзу ССР дала, распачаў працу, як найвышэйшы орган улады Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, згодна падзелу пятага Аснаўнога Закону Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.»

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**12.** **Аб зацьверджаньні дэкрэтау і пастановау УЦВК і РНК РСФСР.**

Зацьвердзіць і агаласіць у наступным выглядзе:

«Усе дэкрэты і пастановы УЦВК'у й яго Прэзыдыуму, якія, дзеля адносінаў водлуг умовы між РСФСР і саюзнымі рэспублікамі і дзеля паўнамоцтваў, дадзеных ЦВК'ам Саюзу ССР Прэзыдыуму УЦВК у сьнежні 1922 г., атрымалі сілай законадаўчых пастановаў пашырэньне на абшарах РСФСР і саюзных, умовавых рэспублік, захоўваюць сваю сілу, як абавязковыя да чыннасьці на ўсім абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.»

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**13.** **Выбраньне камісіі для выпрацаваньня палажэньняу аб ЦВК'у, РНК, агульнага палажэньня аб наркаматах і палажэньняу аб паасобных наркаматах Саюзу ССР.**

Утварыць Камісію Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР для выпрацаваньня палажэньняў аб ЦВК'у, РНК, агульнага палажэньня аб наркаматах і палажэньняў аб паасобных наркаматах Саюзу ССР у наступным складзе т. т.:

1. Калінін,
2. Нарыманаў,
3. Чэрвякоў,
4. Сапронаў,
5. Енукідзе,
6. Курскі,
7. Аванесаў,
8. Белабародаў,
9. Пятакоў,
10. Тэр-Габрыэлян.

Даручыць камісіі перагледзіць проэкты палажэньняў, якія ёсьць, і разаслаць адпаведным наркаматам для атрыманьня ад іх сваіх уваг ці ўнясеньня зьменаў і паправак, згодна Аснаўнога Закону Саюзу ССР.

Даручыць Камісіі гатовыя проэкты палажэньняў падаць Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР на зацьверджаньне не пазьней 15-га жніўня 1923 году.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**14. Выбраньне камісіі для выпрацаваньня палажэньня аб бюджэту Саюзу ССР.**

Утварыць камісію Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР для выпрацаваньня палажэньня аб бюджэту Саюзу ССР ў складзе т. т.:

1. Сакольнікава
2. Пятроўскага,
3. Владзімірава,
4. Пятакова,
5. Рогава М. І.
6. Нодэль,
7. Тэр-Габрыэляна.

Даручыць камісіі перагледзіць проэкт палажэньня аб бюджэту Саюзу ССР які ўжо ёсьць, пагадзіўшы яго з Аснаўным Законам Саюзу ССР і падаць у Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР у двухтыднёвы тэрмін на зацьверджаньне.

Скліканьне камісіі даручыць тав. **Рогаву.**

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**15. Выбраньне камісіі для выпрацаваньня палажэньня аб Найвышэйшым Судзе й аб'яднанай ДПУ Саюзу ССР.**

Зацьвердзіць камісію Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР для выпрацаваньня палажэньня аб Найвышэйшым Судзе і аб'яднанай ДПУ Саюзу ССР у складзе т. т.:

1. Сьмірнова А. П.
2. Курскага,
3. Уншліхта,
4. Белабародава,
5. Тэр-Габрыэляна,
6. Скрыпніка,
7. Гетнера,
8. Стучкі.

Даручыць камісіі ў трохтыднёвы тэрмін перагледзіць выпрацаваныя гэтай жа камісіяй проэкты палажэньняў, дапоўніць ці зьмяніць іх, згодна Аснаўнога Закону Саюзу ССР і ўнесьці ў Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР на зацьверджаньне.

Скліканьне камісіі даручаецца тав. **Сьмірнову.**

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**16. Выбраньне бюджэтнай камісіі ЦВК'у Саюзу ССР.**

Утварыць пастаянную бюджэтную камісію ЦВК'у Саюзу ССР у складзе т. т.:

1. Рудзутака,
2. Рогава,
3. Сьмірнова В. М.,
4. Владзімірава,
5. Пятакова,
6. Фрунзе,
7. Цхакая,
8. Позэрна.
9. Чэрвякова,
10. Хінчука,
11. Шмідта В.,
12. Праўдзіна,
13. Ногіна,
14. Матвеева,
15. Тэр-Эгізар'янца,
16. Лепсэ,
17. Сьвідэрскага,
18. Тэр-Габрыэляна,
19. Прэабражэнскага.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**17. Аб зацьверджаньні намесьнікаў народных камісараў Саюзу ССР.**

Зацьвердзіць намесьнікамі Народных Камісараў Саюзу ССР наступных таварышаў:

замежных спраў—Літвінава М. М. і Ракоўскага Х. Г.
ваенных і марскіх спраў—Склянскага Э. М.
замежнага гандлю—Фрумкіна М. І.
шляхоў зносін—Серабракова Л. П. і Барысава І. Н. (па тэхнічнай частцы).
почт і тэлеграфаў—Даўгалеўскага В. С.
раб.-сялянскае інспэкцыі—Аванэсава В. А.
Выш. рады народн. гаспад.—Пятакова Ю. Л.
грашовых спраў—Владзімірава М. К.
харчовых спраў—Лабачова І. С.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**18. Аб афіцыяльнай газэце Саюзнага ЦВК'у.**

Зьмяніць назву «Известия ВЦИК и Московского Совета» на «Известия ЦИК'а Союза ССР и ВЦИК'а Советов Раб.-Крестьянск., Красноармейск. и Казачьих Депутатов», зьняўшы ўзгаловак Маскоўскага Савету дзеля таго, што ў Маскоўскага Савету ёсьць свой друкаваны орган.

Прапанаваць рэдакцыі газэты «Известия» адчыніць у газэце два аддзелы для афіцыяльных загадаў і пастаноў:

1. для ЦВК'у і РНК Саюзу ССР;
2. для УЦВК'у і РНК РСФСР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**19. Аб пашырэньні на Саюз ССР дэкрэту аб нетрах зямлі, ухваленага II сэсіяй УЦВК'у X скліканьня.**

Зацьвердзіць і агаласіць у наступным выглядзе:

«Дзейнасьць «Палажэньня аб нетрах зямлі і іх распрацаваньні», зацьверджанае 7 ліпеня 1923 г. 2-й сэсіяй УЦВК'у, пашырыць з моманту агалашэньня гэтае пастановы на абшары ўсіх саюзных рэспублік».

### ПАЛАЖЭНЬНЕ

**аб нетрах зямлі й распрацаваньню іх** *(скасаваньнем дэкрэту аб нетрах зямлі ад 30-га красавіка 1920 г.— З. У. 1920 г. № 36, стр. 171).*

**Агульныя палажэньні.**

1. Мейсцы араджэньняў капальных, якія знайходзяцца ў нетрах зямлі, ў межах Саюзу ССР складаюць маемасьць Саюзу ССР.

2. Распарадчэньне нетрамі, у адносінах да ўсіх знайходзячыхся ў іх капальных цьвярдых, жыдкіх і

парападобных, а так сама агульнае кіраваньне гарняцкаю справаю й баспасрэдная апека аб пляновым разьвіцьці ўсіх яе галін, у асобку—выданьне дазволаў на вытварэньне ўзьвядковых і эксплёатацыйнай працы і нагляд за правідловасьцю ўсіх гарняцка-прамысловых прац, даручаецца Вышэйшай Радзе Народнае Гаспадаркі (ВРНГ) Саюзу ССР, па Галоўнай Управе Гарняцкай Прамысловасьці.

3. Вытварэньне гарняцка—прамысловых прац: шуканьняў, узьведкаў, здабываньняў і перапрацаваньняў карысных капальных, на ўмовах, якія паказаны ў гэтым палажэньні, даецца усім грамадзянам і юрыдычным асобам Саюзу ССР.

Права вытварэньня паказаных прац даецца чужаземцам і прызнаным у Саюзе ССР замежным юрыдычным асобам ня накш, як з дазволу Рады Народных Камісараў Саюзу ССР ў кожным асобным выпадку.

Увага: Вытварэньне гарняцка-прамысловых прац безпасрэдным загадам урадовых установаў падлягае тым самым правілам, што й вытварэньне гэткіх прыватнымі таварыствамі й асобамі.

4. ВРНГ Саюзу ССР, водлуг згоды з Наркомваенморам і НКШЗ Саюзу ССР і адпаведнымі наркаматамі Земляробства, НКУС і НКАЗдароў'я саюзных рэспублік, водлуг падлегласьці, устанаўляе:

а) у межах якіх мяйсцавосьцяў або вучасткаў разпрацаваньне нетраў цалкам ці ў адносінах вядомага гатунку капальных забараняецца;

б) у межах якіх мяйсцавосьцяў або вучасткаў разпрацаваньне дазваляецца толькі пры выкананьні вядомых варункаў;

в) якія або якога гатунку кавалкі паверхні не належаць адданьню дзеля патрэб гарняцкае справы, або належаць толькі ў выключных выпадках для вызначанага гатунку патрэбнасьцяў.

5. ВРНГ Саюзу ССР даецца права абвяшчаць вынятымі з дзейнасьці агульных правілаў гэтага «Палажэньня» асобныя мяйсцавосьці й вучасткі паверхні, з ліку адданых пад вытварэньне гарняцка-прамысловых прац.

Увага. Права вынятку, згодна арт. 5, не пашыраецца на плошчы, ўжо адданыя пад узьведкі (арт. 9) або разпрацаваньне, (арт. 13).

### Аб шуканьнях.

6. Шуканьні карысных капальных, якія выяўляюцца ў павярховым аглядзе абшару, складаньне яго пляну, зьбіраньне прыкладаў гарняцкіх пародаў, вытварэньне геолёгічных, магнэсамэтрычных, электрычных і інш. гатунку досьледаў, якія не патрабуюць грабарскай працы, могуць вытварацца ўсюды, без асабістых на тое дазволаў.

Увага. Выняткі ўстанаўляюцца ВРНГ Саюзу ССР водлуг згоды з НКВМС, НКШЗ Саюзу ССР і НКУС саюзных рэспублік водлуг належнасьці.

7. Шуканьні, зьвязаныя з вытварэньнем грабарскай працы, могуць вытварацца або водлуг згоды з карыстаньнікамі паверхні, а ў выпадку адсутнасьці згоды, водлуг дазволу, які даецца мяйсцовымі органамі Галоўнае Управы Гарняцкай Прамысловасьці ў паразуменьні з установамі, якія загадваюць паверхняй.

Увага. У адносінах савецкіх гаспадарак патрабуецца згода як з іх часовымі карыстаньнікамі, так і з належнымі зямельнымі органамі.

8. Вытварэньне працы шуканьня адным гарняцка-прамыслоўцам не зьяўляецца перашкодаю для вытварэньня яе на тым жа ш абшары другімі.

### Аб узьведках.

9. Асоба, першая вышукаўшая ў той ці іншай мяйсцовасьці мейсца араджэньня якога-колечы карыснага капальнага і падаўшая аб тым вядомку ў месячны, ад часу знахаждэньня, тэрмін мяйсцоваму органу Гал. Управы Гарн. Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР, прызнаецца першым знаходцам, якому даецца выключнае, ў межах акрэсьлянага прасьцягу, права вытварэньня ўзьведкі, якая выяўляецца ў бліжэйшым дазнаньні прыметы вышуканага мейсца араджэньня і таго, наколькі яно варта разпрацаваньня.

У выпадку адсутнасьці асобы, якая карыстаецца правам першага знаходцы гэнага мейсца араджэньня, гэткім правам карыстаецца першы павядомца аб ім, незалежна ад таго, зьяўляецца ён і знаходцай гэнага мейсца араджэньня ці не.

Увага. Мяйсцовыя органы Гал. Управы Гарняцкае Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР павінны весьці запісы заявак і падаваць іх для разгляду водлуг патрабаваньня зацікаўленых асоб.

10. Выключнае права вытварэньня ўзьведкі, ў межах вызначанага прасьцягу, ў адносінах да нафты й мінэральных крыніцаў, а ў выключных здарэньнях, пры адсутнасьці сушуканьнікаў, якія разпачалі ўжо вытварэньне грабарскіх шукальных прац, і ў адносінах да іншых карысных капальных, можа быць давацца ня толькі асобам, фактычна выкрыўшым прысутнасьць мейсца араджэньня таго ці іншага капальнага, але й тым, якія пададуць геолёгічныя і іншыя довады, выстарчаючыя для прызнаньня пэўнасьці адшуканьня мейсца араджэньня капальнага, якоя паказана ў заяве.

11. Выдача аднаму горнапрамыслоўцу выключнага права на вытварэньне ўзьведкі вышуканага ім мейсца араджэньня карыснага капальнага не зьяўляецца перашкодай для дазволу, ў межах паданага пад яго загад прасьцягу, другім горнапрамыслоўцам як шуканьняў, так сама і ўзьведкаў іншых капальных, пры абавязковых варунках, каб іх працы не прашкаджалі працы першага.

12. Плошчы для вытварэньня ўзьведкаў даюцца на тэрмін да пяцёх гадоў.

Увага. Варункі й тэрміны вытварэньня ўзьвядковай працы, ў адносінах да па-асобных мяйсцавосьцяў і капальных, вызначаюцца ВРНГ Саюзу ССР.

### Аб адбіуцы вучасткау нетрау і паверхні.

13. Асоба, ў свой час скончыўшая вытварэньне ўзьвядковай працы, выстарчаючай для вызначэньня таго, што гэнае мейсца араджэньня варта разпрацаваньня,—мае права атрымаць ня больш чатырох адбіўных плошчаў для разпрацаваньня вышуканага і ўзьведанага ёй мейсца араджэньня, як у межах узьведанага ёй мейсца араджэньня, так і часткаю вонках яго, на вольнай ад заявак іншых сушуканьнікаў плошчы.

14. Адбіўка вучастку нетраў або гарняцкая адбіўка (горный отвод) выяўляецца ў абмяжаваньні прасьцягу паверхні, пад якім горнапрамыслоўцу дазваляецца разпрацаваньне капальнага.

Памер гарняцкай адбіўкі для не аднальковых мяйсцавосьцяў і капальных вызначаецца ВРНГ Саюзу ССР.

15. На аднэй і тэй жа мяйсцавосьці могуць адбівацца гарняцкія адбіўкі неаднальковым асобам для здабытку розных капальных, хоць бы гэныя адбіўкі і ўскрываліся ўзаемна. Але гэта можа быць толькі ў тым выпадку, калі знойдзенае пасьля капальнае знаходзіцца не ў адным с папярэдня-знойдзеным капальным мейсцам араджэньня і можа разпрацоўвацца незалежна ад першага.

16. Горнапрамыслоўцу, якому выдадзена права вытварэньня ўзьвядковай працы, або разпрацаваньне мейсца араджэньня карыснага капальнага, павінны давацца ў карыстаньне патрэбныя яму (для ўзьведкі ці разпрацаваньня, збагаценьня і перапрацаваньня капальнага, а так сама для адбудаваньня памяшканьняў для рабочых і служачых) вучасткі паверхні, з ліку належачых аддачы для патрэбнасьцяў гарняцкае справы (арт. 4) у межах адбітай яму адбіўкі, а ў выпадку нямінушчай патрэбы і вонках яго.

17. Выданьне горнапрамыслоўцам гарняцкіх адбівак і вучасткаў паверхні, а так сама абмяжаваньне іх у натуры, робяцца мяйсцовымі органамі Гал. Управы Гарняцкае Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР ў парадку інструкцыі выпрацаванай згодаю ВРНГ Саюзу ССР і НКЗемляробства саюзных рэспублік, водлуг належнасьці, ўжыткоўна да арт. 115 Зямельнага Кодэксу і ўвагі да яе.

18. Спрэчкі й непаразуменьні, якія выбухаюць водлуг арт. арт. 11 і 15 гэтага палажэньня, разьвязваюцца мяйсцовымі органамі Гал. Управы Гарняцкай Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР.

### Аб правох і абавязках карыстаньнікау адбіукамі.

19. Разпрацаваньне мейсца араджэньня ўселякага гатунку карысных капальных, за выключэньнем выпадкаў, паказаных у арт. 20, можа вытварацца ня накш, як у межах, паданых для таго горнапрамыслоўца органамі Гал. Управы Гарняцкай Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР. гарняцкіх адбівак.

20. Без дазволу органаў Гал. Управы Гарняцкай Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР могуць ажыцьцяўляцца:

а) належачыя да веданьня органаў НКЗ-бства і НКУС саюзных рэспублік водлуг належнасьці вытварэньні гідротэхнічных вышуканьняў і будаваньняў для скарыстаньня падзямельных водаў дзеля мэты ўрэгуляваньня воднае гаспадаркі й сельска-гаспадарчае меліарацыі;

б) разпрацаваньне яўнай працай у межах паласы й вучасткаў адчужджэньня пад чыгункі і іншыя шляхі зносін, водлуг загаду ўправаў гэткіх шляхоў, патрэбных ім капальных;

в) разпрацаваньне будаўнічных матар'ялаў, пяску, гліны і інш, а так сама торфу, ў межах гарадзкой рысы, якоя даецца выключна водлуг загаду адпаведных выканаўчых камітэтаў;

г) разпрацаваньне аграномічных руд—фасфарытаў, вапняку, мергелю і г. д., будаўнічых каменьняў, мармура-падобных вапнякоў, пяшчаньнікаў і г. д., гліны ўсіх гатункаў, пяску, торфу і інш. агульнапашыраных капальных—карыстаньнікамі паверхні ў межах, выдадзеных у іх карыстаньне вучасткаў, дзеля ўласнае патрэбы, а так сама для задаволеньня патрэбнасьцяў сельскае гаспадаркі й кустарнае прамысловасьці.

Увага. Разпрацаваньне, якоя вытвараецца пры гэтых варунках, ня можа, адылі, зьяўляцца перашкодаю для адданьня занятых ім вучасткаў паверхні зямлі для патрэбнасьцяў гарняцкае справы, калі для гэтага паўстане патрэбнасьць.

21. Горнапрамыслоўца, які атрымаў адбіўку, мае права разпрацоўваць у межах гэнае ўсе мейсцы араджэньня таго капальнага, для здабытку якога яму далі адбіўку, а так сама ўсе іншыя капальныя, якія знаходзяцца ў адным з разпрацоўваемым мейсцы араджэньня. Апрача таго, ён мае права здабыткоўваць, у межах адданае яму адбіўкі, тыя агульна пашыраныя гарняцкія пароды, якія патрэбны яму для засыпаньня выпрацаваных прасьцягаў, а так сама будаўнічае каменьне, гліну, агнятрывалыя матар'ялы, флюсы і інш. капальныя, патрэбныя яму для руднічных (капальняў) будынкаў, адбудаваньняў і мэталургічнага апрацаваньня капальных, паколькі права на разпрацаваньне іх ня было раней аддана іншым асобам.

З моманту выдачы адбіўнога акту права на здабытак памянёных капальных можа давацца другім, апрача карыстаньніка адбіўкаю, асобам толькі ў тым выпадку, калі гэтым ня будуць парушацца правы карыстаньніка адбіўкаю.

22. Гарняцкая адбіўка даецца горнапрамыслоўцу наперад да выпрацаваньня.

Паданае горнапрамыслоўцу права на адбіўку можа быць пераданым другой асобе, з ліку тых, якія маюць права займацца гарняцкім промыслам, але не накш, як водлуг пісьмовага дазволу органу Гал. Управы Гарняцкае Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР, аб чым апошнім робіцца адметка на адпаведных дакумэнтах.

23. Калі які-колечы з горнапрамыслоўцаў не разпрацоўвае гэткіх адбівак, разпрацаваньне якіх у гэны момант эканамічна магчліва і з погляду грамадзянскіх інтэрасаў наляганна пажадана, ВРНГ Саюзу ССР (Галоўн. Управа Гарняцкае Прамысловасьці) мае права падаць яму патрабаваньне аб пачатку разпрацаваньня й выкананьня вызначанай вытворчай праграмы.

У выпадку адмовы карыстаньніка адбіўкай ад выкананьня паданых яму патрабаваньняў, адбіўка належыць прадажы з торгу асобам, якія беруць на сябе замаца-

ваныя заставаю абавязкі выкананьня паданых патрабаваньняў.

24. Карыстаньнік адбіўкаю, які атрымаў, згодна атр. 23 гэтага палажэньня, патрабаваньне аб пачатку разпрацаваньня і аб выкананьні вызначанай вытворчай праграмы і ўзяўшы на сябе паказанае абавязкоўства, але ня выканаўшы яго, губляе права на далейшае карыстаньне адбіўкаю, якая адбіраецца ад яго дарма з усей будоўляй на ей знаходзячайся.

25. Мейсцы араджэньня карысных капальных, ужо знойдзеныя, г. з. такія, прысутнасьць якіх ужо вядома й не патрабуе для свайго знаходжэньня вытварэньня далейшых геолёгічных досьлядаў, ці шуканьняў, ці ўзьведкаў, аддаюцца ў эксплётацыю Гал. Управаю Гарняцкай Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР на падставе агульных законапалажэньняў адданьня ў арэнду дзяржаўных прадпрыемстваў, з правам ужыткаваньня арт. 22-га гэтага палажэньня.

Увага I: Адданьне дзяржаўным прадпрыемствам у эксплётацыю знойдзяных ужо мейсц араджэньня вытвараецца Галоўн. Управай Гарняцкае Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР на падставе правілаў, якія выяўляны ў гэтым арт., з выдачай ім пераважнага права на арэнду перад іншымі сушуканьнікамі. Усе ўрадовыя ўстановы, а так сама прыватныя юрыдычныя й фізычныя асобы, якія робяць да моманту агалашэньня гэтага палажэньня эксплётацыю мяйсцоў араджэньня капальных не на падставе ўмоваў з Гал. Управаю Гарняцкай Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР, павінны заключыць з апошнім адпаведныя арандовыя ўмовы ў тэрміны, якія вызначаны ВРНГ Саюзу ССР.

Увага II: Эксплётацыя знойдзеных ужо мейсцаў араджэньняў агульна-пашыраных капальных, якія пералічаны ў п. п. «в» і «г» арт. 20, падлягае правілам гэтага арт. 25 за выключэньнем выпадкаў, прадглежаных памянёным арт. 20 гэтага палажэньня.

26. Пасьля канчатковага выпрацаваньня мяйсцоў араджэньня, адпрацаваныя горнапрамыслоўцамі плошчы пераходзяць на агульным грунце ў склад агульна дзяржаўнае зямельнае маемасьці.

**Аб узаемных адносінах між карыстаньнікамі адбівак, карыстаньнікамі паверхні й карыстаньнікамі сумежных адбівак.**

27. Горнапрамыслоўца павінен узнагарадзіць карыстаньнікаў паверхні за ўсе страты, зробляныя ім гарняцкім разпрацаваньнем.

Са свайго боку, карыстаньнікі паверхні не павінны, пад пагрозай згубленьня права на ўзварот стратаў, будаваць новыя будынкі або ж іншым чынам мяняць назначэньне ўключоных у адбіўку вучасткаў бяз згоды на тоя карыстаньніка адбіўкай.

28. У выпадку пабудаваньня ў межах адбіўной плошчы якога-колечы будаваньня дзяржаўнага ці грамадзкага значэньня—чыгункі або іншай дарогі, каналу, вадаправоду і інш., перашкаджаючага вытварэньню горнапрамысловых прац, зробляныя гэтым горнапрамыслоўцу страты належаць да ўтвароту ў вызначаным парадку.

Горнапрамыслоўцу павінна быць даным права рабіць вонках межаў свае адбіўкі дапаможныя, як паверховыя, так і падзямельныя прылады, патрэбныя дзеля спушчаньня вады, правядзеньня паветру ў капальню і правядзеньне шляхоў як у вольнай мяйсцовасьці, пакольні яна, згодна арт. 4, належыць адданьню пад патрэбнасьці гарняцкае справы, так і на адбітых другім асобам плошчах, але з тым, каб прыладжаньні не рабілі перашкодаў і не пагражалі небязьпекай разпрацаваньню капальных у чужых адбіўках.

30. За выкананьне дзейнасьці водлуг адбівак горнапрамыслоўцаў, гакам платы за землебудаўнічыя дзеі, органамі Гал. Управы Гарняцкай Прамысловасьці спаганяецца асобная плата, памер і парадак спагнаньня якой вызначаецца адпаведнымі правіламі, якія ўстанаўляюцца ВРНГ Саюзу ССР водлуг згоды з НКГС Саюзу ССР.

**Плата за карыстаньне нетрамі.**

31. За карыстаньне гарняцкімі адбіўкамі, незалежна ад прамысловага і іншых падаткаў, горнапрамыслоўцы плоцяць падвойнага сорту паборы: адлічэньне з дзесяціны й адлічэньне долевое з вытвору здабытку.

32. За карыстаньне адбіўкамі, адданымі парадкам арт. 13 гэтага палажэньня, што-дзесяцінная плата вызначаецца ў памеры 50 коп. золатам з дзесяціны адбіўкі на год; долевое адлічэньне ня больш 5% вызначаецца ВРНГ Саюзу ССР па Галоўн. Управе Гарняцкае Прамысловасьці.

33. За карыстаньне адбіўкамі, адданымі ў арэнду парадкам арт. 25, з арандатару, апрача арандовай платы, памер якой вызначаецца ВРНГ Саюзу ССР па Галоўн. Управе Гарняцкай Прамысловасьці. У кожным паасобным выпадку спаганяецца што-гадовая плата з дзесяціны ў памеры аднаго рубля золатам, як з поўнай так і ня поўнай дзесяціны, якая ўвайшла ў склад адбіўкі, адданай арандатару.

Увага: ВРНГ Саюзу ССР даецца права вызначэньня выняткаў у адносінах браньня арандовай і што-дзесяціннай платы для паасобных прадпрыемстваў і капальных.

34. ВРНГ ССР і Галоўн. Управе Гарняцкай Прамысловасьці ВРНГ Саюзу ССР, у падлеглых выпадках, водлуг згоды з зацікаўленымі ўстановамі, даецца права выдаваць адпаведныя палажэньні, інструкцыі і правілы дзеля ўжыткаваньня гэтага палажэньня».

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## ПАМЫЛКІ ДРУКУ:

Стар. 9-ая, артыкул 20-ы, 1 радок зьверху, надрукавана: «аб зьніжэньні на 75%» належыць чытаць: «аб зьніжэньні на 50%».

**20. Пастанова ЦВК і РНК Саюзу ССР аб зьніжэньні на 75% акцызу на соль, якая ужываецца на рыбную прамысловасьць.**

Зацьвердзіць і агаласіць у наступным выглядзе:

«Пастанова ЦВК і РНК Саюзу ССР.

Выняткам з пастановы УЦВК і РНК ад 30 лістападу 1922 г. («Известия ВЦИК» ад 5/XII—22 г.), ЦВК і РНК Саюзу ССР пастанаўляюць:

Вызначыць з 1-га траўня 1923 г. для дзяржаўнай і коопэрацыйнай рыбнай прамысловасьці скідку з акцызу на соль, якая ўжываецца апошняй у ўласнай вытворчасьці, на 50% (пяцьдзесят процантаў).»

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква Крэмль.

---

**21. Аб звальненьні ад падаткау усіх опэрацыяу па снабжэньню насельніцтва районау пацярпеушых няуроду с.-г. арудзьдзямі, насеньнем і угнаеньнем.**

Зацьвердзіць і агаласіць у наступным выглядзе:

«ЦВК і РНК Саюзу ССР пастанаўляюць:

1. Звольніць опэрацыі Пасьледголу па снабжэньню на прывілейных астоях насельніцтва, пацярпеўшага наўроду, с.-г. арудзьдзямі, насеньнем і ўгнаеньнем ад уплаты прамысловага падатку, а так сама і мяйсцовых пабораў, якія беруцца з памянёных операцыяў.

2. Даручыць НКГС Саюзу ССР, сумежна з НК РСІ Саюзу ССР, НКЗемляробства саюзных рэспублік і ЦКВынікаў Голаду выдаць інструкцыю аб парадку выкананьня арт. 1-а гэтае пастановы.»

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**22. Аб пашырэньні на прадпрыемствы мукамольнай і алейнай прамысловасьці палажэньня аб дзяржауным прамысловым падатку.**

Зацьвердзіць і агаласіць у наступным выглядзе: «ЦВК і РНК Саюзу ССР пастанаўляюць:

1. Дэкрэт РНК РСФСР ад 22/VII—21 г. «аб парадку натуральнай аплаты за пераробку збожжа й аб парадку эксплётацыі мукамольных і буйных прадпрыемстваў», дэкрэт РНК РСФСР ад 13/X—21 г. «аб парадку натуральнай аплаты за пераробку алейнага збожжа й аб парадку эксплётацыі алейнічных прадпрыемстваў» і пастанову РПА РСФСР ад 17/I—23 г. «аб звальненьні ад уплаты параўнаўчага пабору збожжаабробачных прадпрыемстваў»—скасаваць і прадгледжанае памянёнымі дэкрэтамі брацьцё натуральнага прамысловага падатку са збожжа - пераробачных прадпрыемстваў (млыноў, крупадзёрак, просадзёрак і алейняў)—спыніць.

2. На ўсе паказаныя прадпрыемствы пашырыць чыннасьць пастановы УЦВК і РНК ад 18/I—23 г. аб дзяржаўным прамысловым падатку ў поўным яго абсягу.

3. Належачы з трыманьнікаў вышэй памянёных прадпрыемстваў натуральны падатак, не паданы імі да моманту ўвядзеньня ў дзейнасьць гэтага дэкрэту, а так сама ўсе нядоімкі, якія лічацца за імі, спаганяюцца грашыма водлуг эквівалентаў замены натуральнай нядоімкі, які ўстанаўляецца НКГС Саюзу ССР, апошняму даручаецца так сама і спагнаньне гэтых нядоімак.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**23. Пастанова ЦВК і РНК Саюзу ССР аб зьмене палажэньня аб спагнаньні падаткау і пaбopaу.**

Зацьвердзіць і агаласіць у наступным выглядзе:

«ЦВК і РНК Саюзу ССР пастанаўляюць:

Заменаю арт. 6 палажэньня аб спагнаньні падаткаў і пабораў, зацьверджанага ЎЦВК і РНК РСФСР, памянёны артыкул вытлумачыць наступным парадкам:

6. Пасьля канцу апошняга тэрміну платы, абклад падатку ці пабору,—ня ўнесяны ў скарбніцу НКГС або мяйсцовага аддзелу грашовых спраў, або ўрадовым асобам, упоўнаважаным на зьбіраньне платы,—пералічваецца ў нядоімку, якая ў працягу першых двух дзён пасьля тэрміну выплачваецца без налічэньня штрафу, а пачынаючы ад трэцяга дня належыць выплаце з налічэньнем штрафу ў памеры $1\frac{1}{2}\%$ аснаўнога абкладу за кожны дзень да дня фактычнае выплаты.»

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

# Рады Народных Камісараў

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**24. ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ. Рады Народных Каміса ау Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік аб разпачатку ей працы.**

ЦВК РСФСР, ЦВК УССР, ЦВК БССР, ЦВК ЗСФСР, РНК РСФСР, РНК УССР, РНК БССР, РНК ЗСФСР, народным камісарам Саюзу ССР.

Гэтым даводзіцца да Вашае вядомкі, што ў выкананьне пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ад 13/VII—23 г. Рада Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, зацьверджанная ІІ Сэсіяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік разпачала выкананьне ўзложаных на яе задачаў і прапануе Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Радам Народных Камісараў Саюзных Рэспублік, а так сама Народным Камісарам Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік накіроўваць на разгляд Саюзнае РНК пытаньні, якія ўваходзяць, згодна Конституцыі, ў яе компэтэнцыю.—

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 к.
Масква—Крэмль.

---

**25. Аб утварэньні Рады Працы і Абароны Саюзу ССР.**

Рада Народных Камісараў пастанавіла:

Утварыць РПА Саюзу ССР, пад старшынствам тав. Леніна, ў наступным пэрсональным складзе: т. т. Каменеў, Рыкаў, Цурупа, Сакольнікаў, Дзяржынскі, Кржыжаноўскі, Троцкі (з заступленьнем т. Склянскага), Пятакоў.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау РНК Союзу ССР* **Н Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 к.
Масква—Крэмль.

**26. Аб утварэньні Цэнтральнае Статыстычнае Управы пры РНК Саюзу ССР.**

Рада Народных Камісараў пастанавіла:

Са зьменаю пастановы ЦВК СССР ад 13 ліпеня 1923 году заснаваць цэнтральную статыстычную управу Саюзу ССР пры РНК Саюзу ССР на правох наркамату.

Кіраўніком ЦСУ Саюзу ССР зацьвердзіць тав. Папова з правам нараднага голасу ў РНК Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**27. Аб утварэньні пры Радзе Працы і Абароны Саюзу ССР камісіі унутранага гандлю.**

Рада Народных Камісараў Саюзу ССР пастанавіла:

Утварыць пры РПА Саюзу ССР камісію ўнутранага гандлю. Старшынёй камісіі зацьвердзіць тав. Лежаву А. М.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 к.
Масква—Крэмль.

---

**28. Аб утварэньні пры Радзе Народных Камісарау Саюзу ССР Концэсыйнага Камітэту.**

Рада Народных Камісараў Саюзу ССР пастанавіла:

У выкананьне ЦВК пастановы Саюзу ССР ад 13 ліпеня 1923 г. утварыць пры РНК Саюзу ССР концэсыйны камітэт, старшынёй якога зацьвердзіць тав. Пятакова.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 к.
Масква—Крэмль.

**29.** **Аб дзяржауных прамысловых прадпрыемствах, якія выяуляюць чыннасьць на падставе комэрыцйнага разрахунку (трэстах) і знайходзяцца пад кірауніцтвам мяйсцовых органау.**

### I. Агульныя палажэньні.

1. Трэстамі мяйсцовага значэньня лічацпа падлеглыя губэрскім і краінным радам народнай гаспадаркі, а так сама радам народнай гаспадаркі аўтаномных рэспублік, дзяржаўныя прамысловыя прадпрыемствы, якім даецца самастойнасьць у вытварэньні іх опэрацыяў згодна зацьверджанага для кожнага з іх статуту і якія выяўляюць чыннасьць на падставах комэрцыйнага разрахунку з мэтамі выцягваньня прыбытку.

Гэткія трэсты ўтвараюцца Г РНГ (КРНГ), знаходзяцца пад іх веданьнем і складаюць адпаведнасьць водлуг сваіх абавязкоўставў у межах маемасьці, якая пад іх загадам знаходзіцца (бач. арт. 15).

Дзяржаўная скарбніца, а так сама і адпаведныя Губвыканкомы за даўгі трэстаў адказнасьці не належаць.

2. Дзяржаўны трэст ад часу зарэгістраваньня яго набывае права юрыдычнае асобы. (Грамадз. Код. арт 13; 1-я частка арт. 19).

3. Кожны трэст зьяўляецца адзіным прадпрыемствам у склад якога ўваходзіць некалькі вытворчых адзінкаў (завядзеньняў), а менавіта: фабрык, заводаў, промыслаў, адзяленьняў, гандлярняў і г. д., якія пералічваюцца ў яго статуту.

Увага: Гэты дэкрэт можна дастасоўваць і да прадпрыемстваў, у склад якіх уваходзіць толькі адна вытворчая адзінка.

4. Трэст уладае, карыстаецца й распарадкуе дзяржаўнаю маемасьцю, якая яму даецца, а так сама вытварае свае опэрацыі на агульным грунце грамадзянскіх законаў з тымі выняткамі, якія ўстаноўлены ці будуць устаноўлены асабістымі законамі. Адным парадкам на грунце грамадзянскіх законаў (арт. 21-ы Грамадз. Код.) зямля, яе нетры, воды і пушчы даюцца трэстам на правах карыстаньня.

5. Адносіны трэстаў да профсаюзаў рэгулююцца пастановамі, якія дзейнічаюць у гэты час і адумыслова на гэты выпадак будуць выданыя.

### II. Зацьверджаньне і рэгістрацыя.

6. Пры ўтварэньні кожнага трэсту ГРНГ (КРНГ) складаецца асабісты статут з падрабязговым акрасьленьнем:

а) назва (формы) трэсту, мейсца быцьця яго кіраўніцтва, а так сама пералічэньня завядзеньняў трэсту і мейсца іх быцьця;

б) прадмету прадпрыемства;

в) тэрмін чыннасьці, калі гэткі вызначаецца;

г) памер статутнага капіталу (арт. 13) выяўленага ў залатых рублёх, які даецца трэсту пры яго заснаваньні;

д) лічбовага складу і паўнамоцтваў Кіраўніцтва.

У паказаны статут можна ўключаць і другія, якія ня супярэчаць законам, пастановы.

7. ГРНГ (КРНГ) выяўляе склад маемасьці (статутнага капіталу) прадвырашанаму для перадачы трэсту і складае гэтай маемасьці інвентарны рэестр і ацэнку водлуг істнуючых рынычных цэнаў, пералікам на залатыя рублі.

Увага: Агульны парадак складаньня інвентарных рэестраў вызначаецца асабістай інструкцыяй Рады Працы і Абароны (РПА).

8. ГРНГ (КРНГ) падаюць статут трэсту на зацьверджаньне Губэрскіх Эканамічных Нарадаў (Губэкнар) водлуг згоды з Промбюро, а дзе гэткіх няма,—ВРНГ гэнай Саюзнай Рэспублікі.

Увага: Рознагалосьсе між Губэкнар і Промбюро аб зацьверджаньні статуту трэсту разьвязваецца належнымі Краіннымі Эканамічнымі Нарадамі; аналёгічныя рознагалосьсі між Губэкнар і ВРНГ разьвязваюцца Эканарадамі гэнай Саюзнай Рэспублікі.

9. Пасьля зацьверджаньня статуту ГРНГ (КРНГ) назначае Кіраўніцтва Трэсту (арт. 27) і перадае яму водлуг асобнага акту, усю маемасьць трэсту, згодна паказаных вышэй рэестраў і ацэнкі.

Кіраўніцтва праглядае рэестр і ацэнку і складае ўступны баланс, які праглядаецца Рэвізійнай Камісіяй, аа чым складаецца пратакол.

10. У двухтыднёвы тэрмін пасьля прыняцьця маемасьці, водлуг заяўленьня Кіраўніцтва адбываецца рэгістрацыя трэсту ў Краіннай Эканамічнай Нарадзе (Крэкнар), дзе яны ёсьць, там жа, дзе няма Крэкнар'аў рэгістрацыя адбываецца той жа установай і парадкам, якія ўстаноўляны дзеля рэгістраваньня мяшаных акцыянэрных таварыстваў пры чым Кіраўніцтва падае ў пасьведчаных копіях:

а) зацьверджаны ГРНГ (КРНГ). статут трэсту ў 3-х экзэмплярах,

б) пастановы аб назначэньні сяброў Кіраўніцтва;

в) рэестр і ацэнку прынятай маемасьці;

г) уступны баланс;

д) пратакол Рэвізійнай Камісіі аб праглядзе ўступнага балансу.

11. Установа, якая робіць рэгістрацыю, пасьля зьвяршэньня яе робіць коштам трэсту агалашэньне ў офіцыяльным краінным органе, а калі яго няма, дык у газэці «Экономическая Жизнь», аб адбыўшымся рэгістраваньню трэсту ў публікацыі вызначаюцца:

а) фірма трэсту й мейсца быцьця яго Кіраўніцтва,

б) паказаны ў статуту трэсту прадмет прадпрыемства,

в) уступны баланс.

Увага: Установа, якая робіць рэгістраваньне, насылае па 1 экзэмпляру статуту ў ВРНГ і Раду Працы і Абароны СССР.

12. Наступныя зьмены ў статуце трэсту ці ў яго статутным капітале, або ў пэрсональным складзе яго Кіраўніцтва зацьвярджаюцца, рэгіструюцца й агалашаюцца ў друку тым жа парадкам.

### III. Маемасьць і парадак адпаведнасьці трэсту.

13. Капітал, які перадаецца Дзяржаўнаму трэсту і фіксіруецца ў статуце апошняга, зьяўляецца статутным капіталам трэсту.

Статутны капітал выяўляецца ў залатых рублёх.

Увага: Зямля, яе нетры, воды і пушчы ў склад капіталу ня ўключаецца й па балансу не праводзяцца. Адылі, ў статуце трэсту, яго справаздачы й агалашаемых балансах, абвязкова паказваецца асабістым небалансовым артыкулам колькасьць дзесяцін зямлі й пушчаў, якімі трэст карыстаецца, са спраўкаю аб іх сярэдніх даваенных цэнах у залатых рублёх, а так сама і зьвязаная з карыстаньнем зямлёй, яе нетрамі і пушчамі рэнта.

14. Статутны капітал трэстаў падзяляецца на:

а) аснаўны і б) зваротны. Пад аснаўным капіталам разумеецца ўся маемасьць, якая ня нішчыцца цалкам у адным акце вытворчасьці, гэта значыцца фабрычныя і іншыя будынкі, машыны, асталяваньне, інструмэнты, жывы і мёртвы інвентар і г. д. Пад зваротным капіталам разумеюцца грошы, каштоўныя паперы, продукцыя, а так сама ўсе прадметы, якія можна выкарыстаць у працэсе вытворчасьці толькі аднойчы, як напр. апал, сыр'ё, уселякія матар'ялы і г. д.

15. Пры ўзвароце спагнаньняў на маемасьць трэсту прымаюцца пад увагу наступныя правілы:

а) на маемасьць, якая тычыцца водлуг роду свайго, згодна арт. 1-га да зваротнага капіталу, спагнаньні зьвяртаюцца такім жа парадкам, як на маемасьць прыватных асобаў.

Увага: Спрэчкі аб належнасьці маемасьці да зваротнага ці аснаўнога капіталу, якія выбухаюць пры адбываньні спагнаньняў, разьвязваюцца адпаведным судом па мейсцу быцьця спрэчнае маемасьці

б) на маемасьць, якая належыць да аснаўнога капіталу, як пераданая трэсту пры яго ўтварэньні, так і набытая ім у далейшым, спагнаньне можа быць узварочана толькі з захаваньнем арт. 22-га і ужыткам да яе Грамадз. Код. і арт. 26 п. «а» гэтага дэкрэту.

## IV. Фінансы мяйсцовых трэстау і разьмяркаваньне прыбытку.

16. Фінансіраваньне трэстаў Дзяржаваю адбываецца як правіла, чынам дачы трэстам адпаведных грашовых сродкаў. Замена грашовых сродкаў іншымі каштоўнасьцямі можа адбывацца толькі водлуг згоды з трэстамі й з абавязковым выяўленьнем гэтых каштоўнасьцяў у грашовай форме.

17. Усе грашовыя і матар'яльныя сродкі, якія даюцца дзяржаўнаму трэсту да зацьверджаньня яго статуту парадкам, які ўстаноўлены гэтым дэкрэтам,—знаходзячыяся да моманту зацьверджаньня статуту пад загадам трэсту,—належаць ацэнцы і ўнясеньню ў статутны капітал трэсту, з адначасовым асабістым учотам у Губэрскім Грашовым Аддзеле, калі сродкі гэтыя не атрыманы трэстам парадкам ссуды.

18. Усе мясцовыя трэсты парадкам і ў тэрміны ўстаноўляныя правіламі складаньня й выкананьня мяйсцовага губэрскага бюджэту падаюць у ГРНГ (КРНГ) свае грашовыя й вытворчыя каштарысы за мінулы год. ГРНГ падаюць усе пералічаныя матар'ялы са сваімі заключэньнямі на разгляд і зацьверджаньне Губэкнар. Зацьверджаныя Губэкнар'амі праграмы й каштарысы ГРНГ падаюць у тыднёвы тэрмін у адпаведныя Промбюро, а дзе гэткіх няма, ў ВРНГ гэнай Саюзнай Рэспублікі. У выпадку нязгоды з зацьверджанымі праграмамі й плянамі, ВРНГ або Промбюро ў месячны тэрмін ада дня атрыманьня праграмы і плянаў, мае мае права апратэставаць іх: ВРНГ ў Эканамічную Нараду (Экнар) гэнай Саюзнай Рэспублікі; Промбюро—ў Краінную Эканамічную Нараду (Крэканар).

Няпаданьне протэсту ў паказаны тэрмін разглядаецца, як згода ВРНГ і Промбюро з зацьверджанымі праграмамі й плянамі.

19. У складзе мясцовага бюджэту ўтвараецца для фінансіраваньня мяйсцовай прамысловасьці адумысловы прамысловы фонд, зложаны з процантных адлічак:

а) ад прыбыткаў мяйсцовых прамысловых прадпрыемстваў.

б) ад сум, якія набыты пры прадажы старой прамысловай маемасьці, а так сама дробных прамысловых прадпрыемстаў, паколькі гэткая прадажа законам дазваляецца.

в) ад рандовай (арендной) платы за адданыя ў арэнду прадпрыемствы, якія падлягаюць ГРНГ (КРНГ).

Увага: Памер належнага адлічэньня ў прамысловы фонд цроцанту ад прыбытку прамысловых прадпрыемстваў што год вызначаецца Губэкнар'ай водлуг прэдстаўленьня ГРНГ (КРНГ), пагоджаны з Губэрскім Адзелам Грашовых Спраў і пасьля зацьверджаньня НКГС водлуг згоды з ВРНГ. Процант адлічак ад прадажы старой маемасьці і дробна-прамысловых прадпрыемстваў ад арэнднай платы вызначаецца інструкцыяй НКГС і ВРНГ Саюзу ССР, зацьверджанай Радай Працы і Абароны (РПА).

Увага 2-я. Парадак і правілы выдаткаваньня прамысловага фонду вызначаюцца адмысловай інструкцыяй, якая выпрацоўваецца НКГС і ВРНГ Саюзу ССР і зацьвярджаецца РПА.

20. Увесь прыбытак трэсту ўносіцца ў агульныя рэсурсы мяйсцовага губэрскага бюджэту, за выняткам: а) адлічак ня менш 20% ў рэзэрвовы капітал трэсту, пакуль апошні не дасягне паловы статутнага капіталу, б) адлічак у прамысловы фонд і в) адлічак на выданьне таньцьем сябрам Кіраўніцтва і ўзнагароды рабочым і служачым. Памер адлічак у рэзэрвны капітал трэсту й памер адлічак на выданьне таньцьем і ўзнагароды вызначаецца ГРНГ (КРНГ) і зацьвярджаецца Губэкнар'аю (Краін. Экнар'а).

21. Прыбытак мяйсцовых прамысловых прадпрыемстваў уключаецца ў мяйсцовы бюджэт па кожнаму аб'яднаньню прамысловых прадпрыемстваў (трэсту) ў асобку, а ў выпадку прысутнасьці паасобных прамысловых прадпрыемстваў — водлуг галін прамысловасьці.

Увага: У асобных здарэньнях згодна з пастановамі Губэкнар'аў зацьверджаных НКГС і ДРНГ па згодзе—мяйсцовы губэрскі бюджэт уключаецца сальдо ўсей мяйсцовай прамысловасьці цалкам.

22. Дэфіцытнае сальдо прамысловых прадпрыемстваў можа ўносіцца ў мяйсцовы бюджэт толькі ў выпадку мажлівасьці яго пакрыцьця коштам прамысловага фонду, які можа выдаткавацца толькі водлуг адумысловых па-

становаў Губэкнар'аў і толькі ў адносінах прадпрыемстваў, якія маюць асабіста важкое значэньне для гэнага райёну і пры ўмове мажлівасьці бязстрашнага эксплёатаваньня гэных прадпрыемстваў у далейшым.

23. Трэсты могуць атрымоўваць каротка-тэрміновыя ссуды як ад дзяржаўных гэтак і ад нядзяржаўных крэдытовых установаў на агульным для прыватных прадпрыемстваў грунце, з абавязковым праводжаньнем па свайму балансу адпаведных артыкулаў водлуг кожнага віду крэдыту ў асобку.

24. Хаўрусаваньне другіх дзяржаўных прадпрыемстваў і коопэрацыі, а так сама прыватнага капіталу да ўдзелу ў капіталу трэсту можа адбывацца ня начы, як шляхам рэорганізаваньня трэсту ў мяшанае акцыянэрнае таварыства, зацьверджанае належным чынам.

## V. Органы кіраваньня й рэвізыі.

25. Органамі кіраваньня й рэвізыі трэсту зьяўляюцца:

а) ГРНГ (КРНГ),

б) Кіраўніцтва або адзінаасобны кіраўнік.

в) Рэвізыйная Камісія.

### А. ГРНГ.

62. Усе правы па кіраваньню трэстамі мяйсцовага значэньня належаць ГРНГ (КРНГ) паколькі правы гэтыя не абмяжаваны статутам трэсту, але абавязковаму веденьню ГРНГ (КРНГ) належаць:

(а дазваленьня на набытак і адданьне ў арэнду (з захаваньнем правілаў, на якія паказана арт. 152—179 Грамадз. Код.) будынкаў і другіх частак аснаўнога капіталу, а так сама пашырэньне прадпрыемстваў, з вызначэньнем парадку квітаваньня выдаткаў, якія зьвязваюцца з набыцьцём будынкаў і пашырэньнем прадпрыемстваў, на адданьне ў арэнду на тэрмін больш ад 6 гадаў і прыняцьця ў арэнду прадпрыемстваў, а так сама на адчужджэньне й заклад тых часьцін аснаўнога капіталу, якія не забаронены да адчужджэньня й закладу (арт. 22. Грамадз. Код.).

Увага: Паказаныя ў гэтым артыкуле абавязкі ГРНГ (КРНГ) ажыцьцяўляюць пасьля зацьверджаньня й згоды Промбюро, а дзе іх няма— ВРНГ і Губэкнар'аю разьвязваюцца Краіннаю Эканамічнаю Нарадаю (Крэнар'аю) між ВРНГ і Губэкнар'аю—Экнар'аю гэнай Саюзнай Рэспублікі.

б) Дазваленьне на адданьне ў арэнду прадпрыемстваў на тэрмін да 6-х гадаў і на ўзяцьцё ў арэнду падручных прадпрыемстваў;

в) зацьверджаньне й звальненьне сяброў Кіраўніцтваў, Рэвізыйнае й Ліквідацыйнае Камісіяў з захаваньнем арт. арт. 27, 39, 48;

г) зацьверджаньне абранага кіраўніцтвам Дырэктра-Разпарадчыка, калі гэткая пасада ўстаноўлянай будзе, а так сама зацьверджаньне заходаў Кіраўніцтва аб назначэньні й звальненьні Галоўнага Бухгальтэра;

д) зацьверджаньне й зьмены інструкцыі Кіраўніцтву, Дырэктару разпарадчыку і Галоўнаму Бухгальтэру ў межах чынных законаў, палажэньняў і статуту гэнага трэсту;

е) разгляд для падачы на зацьверджаньне згодна арт. 18-га каштарысаў і плянаў чыннасьці на наступны год на падставе зацьверджанага вытворчага пляну па гэнай галіне прамысловасьці (арт. 18), а так сама справаздачаў і балансаў за мінулы год;

ж) складаньне пляну размяркаваньня прыбытку за мінулы год з захаваньнем правіл разьдзелу VI, арт. 20 га;

з) разьвязваньне пытаньняў аб зьмене статуту й памеры статутнага капіталу і ліквідаваньні трэсту, з захаваньнем арт. 12 і 48 гэтага дэкрэту;

і) дазваленьне выдаткаваньня рэзэрвовага капіталу;

к) дазваленьне пасьля зацьверджаньня Губэкнар'аю Кіраўніцтву рабіць грунтоўныя зьмены ў зацьверджаным вытворчым пляне;

л) дазваленьне на ўваход у сындыкаты і пасьля зацьверджаньня Губэкнар'аю, іншыя Гандлёва-прамысловыя об'яднаньні.

Увага: Мяйсцовыя і цэнтральныя дзяржаўныя органы ня маюць права чапіцца ў бягучую адміністратыўную і опэрацыйную працу Кіраўніцтва трэсту, адылі, ў статуце трэсту могуць быць зьмешчаны конкрэтна-вызначаныя прадметы апрача паказаных у гэтым артыкуле, падлеглыя ГРНГ (КРНГ); якія выключаюцца тым самым з компэтэнцыі Кіраўніцтва гэнага трэсту.

### В. Кірауніцтва.

27. Кіраўніцтва трэсту ў колькасьці трох сяброў або ж адзіна-асобны кіраўнік і яго намесьнік зацьвярджаюцца ГРНГ (КРНГ) на адзін год.

Пасьля зьвяршэньня справаздаўнага году і падачы балансу, ГРНГ (КРНГ) пераглядае склад Кіраўніцтва і вызначае яго склад на наступны опэрацыйны год. Тым жа ж чынам пераглядаецца пытаньне аб працягненьні паўнамоцтваў і адзіна-асобнаму кіраўніку. У працягу опэрацыйнага году Старшыня Кіраўніцтва або адзіна-асобны кіраўнік можа быць зволены ГРНГ (КРНГ) толькі пасьля вышуканьня Рэвізыйнай Камісіі або судовымі ўладамі неадпаведнасьці ўзложаных на яго абавязкаў, безгападарчасьці і іншых злых учынкаў.

Сяброў Кіраўніцтва можна звальняць пры тых самых умовах, а так сама водлуг згоды з ГРНГ (КРНГ) з старшынёй Кіраўніцтва й водлуг іншых памяркаваньняў.

Памер і форма ўзнагароды Старшыні й сябрам Кіраўніцтва, а ў падлеглых здарэньях і адзіна-асобнаму кіраўніку й яго намесьніку вызначаецца ГРНГ (КРНГ).

З ліку сяброў Кіраўніцтва або ж з чужых асобаў можа быць назначаны ГРНГ (КРНГ) дырэктар-разпарадчык, узнагарода якому вызначаецца Кіраўніцтвам і зацьвярджаецца ГРНГ (КРНГ).

28. Старшыня і сябры Кіраўніцтва пры выкананьні сваіх абавязкаў павінны выяўляць угадлівасьць рупнага гаспадара і адпавядаюць дысцыплінарна, карачынна й па грамадзянску як за цэласьць даручанай ім маемасьці, і за гаспадарчае вядзеньне справы.

29. Для сапраўднасьці вырашэньняў на пасяджэньнях Кіраўніцтва павінна быць прысутнай большасьць сяброў.

Вырашэньне Кіраўніцтва пастанаўляецца звычайнай большасьцю галасоў прысутных сбароў, а ў здарэньні падзелу галасоў на-роўна, голас старшыні дае перавагу. Ухваленыя пастановы набываюць сілу тойчас.

Увага: У здарэньні рознагалосься між старшынёй і большасьцю Кіраўніцтва—старшыня мае права ажыцьцяўляць сваё вырашэньне з

неадкладным паведамленьнем аб істоце рознагалосься і ухваленых ім мер ГРНГ (КРНГ), якая мае права скасаваць вырашэньне Старшыні.

30. Пасяджэньнем Кіраўніцтва вядуцца журналы, якія падпісваюцца Старшынёй Кіраўніцтва і зацьвярджаюцца Кіраўніцтвам на чарговым яго пасяджэньні.

31. Абавязкі Кіраўніцтва й межы яго правоў павінны быць ясна акрэсьляныя ў Статуце трэсту. У сваёй практычнай чыннасьці Кіраўніцтва кіруецца інструкцыяй, зацьверджанай ГРНГ (КРНГ) (арт. 26).

32. Кіраўніцтва кіруе ўсімі опэрацыямі трэсту, кіруе яго справамі, маемасьцю, якая знайходзіцца пад загадам трэсту, а так сама зьяўляецца прадстаўніком трэсту на судзе і вонках суду.

Кіраўніцтва заключае ўсе зьдзелкі, якія ўваходзяць у кола опэрацыяў трэсту, ў тым ліку аддае падрады й пастаўкі й прыймае іх на сябе, пытаючыся папярэдняга дазволу ГРНГ (КРНГ) толькі ў тых выпадках, якія ясна паказаны ў гэтым дэкрэту, ў статуце трэсту і ў інструкцыі, зацьверджанай ВРНГ.

Для трэціх асобаў маюць сілу толькі тыя абмяжаваньні паўнамоцтваў Кіраўніцтва па заключэньню зьдзелак, якія ўстаноўлены ў законе й статуце трэсту. Абмяжаваньні ж, устаноўляныя ў інструкцыях ВРНГ і ГРНГ (КРНГ), зьяўляюцца абавязковымі для трэціх асобаў толькі ў тых здарэньнях, калі яны былі ці павінны былі быць ім вядомыя.

Паміж іншым да веданьня Кіраўніцтва далучаюцца:

а) арганізаваньне вытворчасьці й кіраваньне чыннасьцю усіх уваходзячых у склад трэсту вытворчых адзінкаў (завядзеньняў);

б) наладжаньне скарбніцы і справаводзтва, вядзеньне справаздаўнасьці водлуг ладу падвойнай бухгальтэрыі, а так сама складаньне справаздачы, балансу, каштарысу вытворчага пляну і пляну чыннасьці;

в) прыняцьце й звальненьне служачых і рабочых;

г) купля й прадажа маемасьці як за канаўыя грошы, так і на павер, з захаваньнем арт. 26-га гэтага дэкрэту;

д) наняцьце складальняў і памяшканьняў;

е) страхаваньне маемасьці трэсту;

ж) выданьне й прыняцьце да аплаты вэксалёў і іншых тэрміновых абавязкоўстваў;

з) дысконт вэксалёў, якія ўсходзяць на імя трэсту;

і) выданьне даручэньняў;

к) праводжаньне законных (арт. 22 Грамадз. Кад.) актаў на набыцьцё, збыцьцё, адданьне ў арэнду і заклад будынкаў з захаваньнем п «а» арт. 25-га гэтага дэкрэту;

л) удзел на З'ездах і Бюро З'ездаў, сындыкатаў і ўселякага гатунку гандлёвых і прамысловых аб'яднаньняў, з захаваньнем п. «л» арт. 26 гэтага дэрэту;

м) прыняцьце заказаў;

н) іншыя справы, паколькі яны ня ўваходзяць водлуг статуту трэсту ў абсяг веданьня ГРНГ (КРНГ).

33. У статуце трэсту паказваецца, кім утвараюцца зьдзелкі і юрыдычныя дзеі ад імя Кіраўніцтва трэсту.

Размяркаваньне працы між сябрамі Кіраўніцтва адбываецца пастановамі Кіраўніцтва.

34. Кіраўніцтва робіць выдаткі водлуг каштарысаў, якія зацьверджаны згодна з арт. 26 п. «е».

Кіраўніцтва можа рабіць выдаткі звыш каштарыснага назначэньня ў здарэньнях, якія ня чакаюць адкладу, з адпаведнасьцю кіраўніцтва перад ГРНГ (КРНГ) за неабходнасьць і вынікі гэнага выдатку. Аб кожным гэткім выдатку павінна быць у 3-х днёвы тэрмін паслана паведамленьне ГРНГ (КРНГ).

Увага: Усе правы і абавязкі Кіраўніцтва трэсту, прадгледжаныя арт. арт. 28, 21, 32 і 24 адносяцца й да адзіна-асобнага кіраўніка.

35. Опэрацыйны год устанаўляецца ад 1-га кастрычніку да 30 верасьню. Калі трэст утвораны да 1 ліпеня, дык першая справаздача складаецца за час да 1-га кастрычніку таго ж году, калі трэст утвораны пасьля 1 ліпеня, дык першая справаздача складаецца за опэрацыйны пэрыод з моманту ўтварэньня трэстаў да 1 кастрычніку наступнага году.

Справаздача складаецца кіраўніцтвам не пазьней 3 месяцаў пасьля канцу опэрацыйнага году і падаецца з заключэньнем Рэвізыйнай Камісіі на разгляд ГРНГ (КРНГ) арт. 26, п. «е».

Пасьля зацьверджаньня справаздачы (арт. 18), якая павінна адбыцца не пазьней, як цераз 3 месяцы пасьля канцу опэрацыйнага году, баланс і рахаваньні прыбыткаў і стратаў адначасна агалашаюцца (друкуюцца) ў афіцыяльных краінных або губэрскіх органах і падаюцца ўстанове, ў якой трэст зарэгістраваны.

36. Пры складаньні справаздачы за год, абавязкова робіцца інвентарнны рэестр з ацэнкаю ўсяе маемасьці, якая выяўляецца ў залатых рублёх, і складаецца баланс так сама ў залатых рублёх.

Увага I: Адзінае для ўсіх трэстаў правіла пераліку на залатыя рублі ўстанаўляецца асабістай інструкцыяй РПА.

Увага 2: Правіла складаньня інвэнтарнага рэестру вызначаецца ВРНГ ў інструкцыі Галоўнага Бухгальтэру.

37. Пры складаньні балансу павінна асабіста сачыць за выкананьнем наступных правілаў:

а) каштоўныя папера й тавары, якія маюць біржавую ці рыначную каштоўнасьць, паказваюцца ў балансе ня вышэй біржавога ці рыначнага кошту таго моманту, на які складаецца баланс, калі, адылі, гэты кошт перавышае закупчую або загатоўчую каштоўнасьць, дык ня вышэй гэтай апошняй.

а) маемасьць, якая ня мае біржавой ці рыначнай цаны (кошту) паказваецца ня вышэй закупчай або загатоўчай цаны.

в) маемасьць, якая ўваходзіць у склад аснаўнога капіталу ня гледзячы на паступовае памяншэньне яе вартасьці, паказваецца водлуг закупчай ці загатоўчай цаны, а ў падлеглых выпадках водлуг цаны, за якую яна была прынята трэстам пры яго ўтварэньні з той, адылі, умовай, што паменьшаньне яе вартасьці дзеля зьмены, паказваецца шляхам што-годнага адлічэньня проценту яе вартасьці ў капітал пагашэньня маемасьці.

г) ня пэўныя трэбаваньні паказваюцца водлуг пэўнай іх вартасьці, а безнадзейныя выпісваюцца ў страту і ня ўключаюцца ў актыў.

д) выдаткі па арганізаваньню кіраваньня нельга паказваць у актыве балансу, а трэба выпісваць у страту.

е) статутны капітал, рэзэрвовы капітал, капітал пагашэньня маемасьці, а так сама ўсе адмысловыя капіталы, прадгледжаныя статутам трэсту, а так сама ўсе даўгі трэсту павінны быць паказанымі ў пасыве.

ж) прыбытак і страта, якія выявяцца пасьля параўнаваньня ўсяго актыву й пасыву, паказваюцца пасобна ў канцы балансу.

38. Кіраваньне асобнымі вытворчымі адзінкамі (завядзеньнямі), якія ўваходзяць у склад трэсту, даручаецца Дырэктарам і Загадчыкам,—якіх зацьвярджае й звальняе Кіраўніцтва трэсту і якія дзейнічаюць на астоях пэрсанальнасьці, у межах паўнамоцтваў,—якія даюцца ім кіраўніцтвам.

### В. Рэвізыйная Камісія.

39. Для рэвізыі мяйсцовых трэстаў ГРНГ (КРНГ) арганізуецца адна, або ў выпадку патрэбы, некалькі рэвізыйных камісіяў. Склад Рэвізыйнае Камісіі вызначаецца ў 3 асобы: Старшыня і адзін сябра зацьвярджаюцца ГРНГ (КРНГ), а другі сябра дэлегуецца Губпрофрадаю.

Узнагарода ўсім сябрам Рэвізыйнае Камісіі і каштарыс яе выдаткаў вырашаецца ГРНГ (КРНГ) і аплачваецца Кіраўніцтвам адпаведнага трэсту.

40. На абавязкі Рэвізыйнае Камісіі кладзецца: прагляд пэрыодычных справаздачаў і балансаў прадгледжаных статутам трэсту, даньне заключэньняў водлуг проэктаў каштарысу і пляну працы, а так сама і справаздачы за год цалкам.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задачаў, сябры Рэвізыйнае Камісіі маюць права вымагаць падачы кніг, апраўдаўчых дакумэнтаў, умоваў, перапіскі, праглядаць наяўнасьць скарбніцы і даваць запытаньні сябрам Кіраўніцтва і служачых прадпрыемстваў, водлуг пытаньняў, якія выбухнуць пры разглядзе справаздачаў і дакумэнтаў.

Водлуг даручэньня ГРНГ (КРНГ) і ўласнае ініцыятывы Рэвізыйная Камісія робіць рэвізыі й абследаваньні з ненацку.

Рэвізыйная Камісія ня мае права рабіць папярэдні кантроль, даваць Кіраўніцтву водлуг яго запытаньняў, або бяз запытаньня папярэднія заключэньні, водлуг паасобных заходаў і прапазыцыяў Кіраўніцтва.

Рэвізыйная Камісія можа запрашаць для ажыцьцяўленьня сваіх задачаў сьвядомых асобаў.

Сябры Рэвізыйнае Камісіі адпавядаюць дысцыплінарна й карачынна за неправідловыя дзеі і нядбаласьць пры выкананьні сваіх абавязкаў, паміж іншым пры дачы заключэньняў водлуг рахункаў і балансаў.

### VI. Амортызацыя. Рэзэрвовы капітал.

41. У кожным трэсту што год адбываецца амортызацыя маемасьці, якая ўваходзіць у аснаўны капітал, шляхам вызначанага ў статуце трэсту процантнага адлічэньня з першапачатковай вартасьці гэтае маемасьці ў капітал пагашэньня маемасьці, згодна асабістай інструкцыі ВРНГ.

42. Рэзэрвовы капітал слугуе як для пакрыцьця стратаў, гэтак жа й для пашырэньня прадпрыемстваў.

Пасьля дасягненьня рэзэрвовым капіталам паловы статутнага капіталу, ВРНГ (КРНГ) можа ўзьняць пытаньне, парадкам зьмены статуту (арт. 12), аб павялічэньня статутнага капіталу шляхам пералічэньня ў яго часткі рэзэрвовага.

### VII. Падаткі, цэны, занаражваньні.

43. Трэсты абкладваюцца ўсімі відамі падаткаў, у тым ліку й прыбытковым роўна з прыватнымі прадпрыемствамі, паколькі іншае ў законе ня ўстаноўляна.

44. Усе трэсты павінны быць сябрамі Біржы й рэгістраваць свае аптовыя зьдзелкі. Продукцыя (выроб) трэстаў рэалізуецца водлуг цэнаў, якія назначаюцца пасьля згоды з купляючым. Абазковыя для трэсту прадажныя цэны на тавары, прымяркаваныя для вольнае прадажы, могуць вырашацца ў выпадку патрэбы толькі пагоджанымі з Губэкнар'аю цераз пастанову Экнар'ы той ці іншай Саюзнай Рэспублікі або пастановаю РПА Саюзу ССР.

45. Дазваляецца занаражваньне пастановамі РПА (або Эканамічнай Нарадай-Экнар'ай — той ці іншай Саюзнай Рэспублікі) цераз ВРНГ продукцыі трэсту па цане ніжэй рынычных, але ня ніжэй сабевартасьці з надаткам сярэдняга прыбытку.

Занаражваньне адбываецца шляхам абязваньня трэсту заключыць адпаведную ўмову з дзяржаўным органам, у інтэрасах якога выдадзены нарад, разам з чым у здарэньні нявыкананьня дзяржаўным органам грашовых абавязкаў водлуг гэткай умовы, адпавядае дзяржаўная скарбніца цалкам.

У выпадку, калі трэсту,—які адпушчае свой выроб (продукцыю) у парадку занаражваньня,—ня будзе выканана якая-колечы выплата ў адзін з устаноўленых паводле гэнае ўмовы тэрмінаў, — дык трэсту даецца права адмовіцца ад далейшае пастаўкі, а разам спаганяць свае страты нн агульных падставах.

Увага: 1. У нязвычайных здарэньнях прадгледжанае гэтым артыкулам права занаражваньня даецца Губэкнары, але ававязкова са згодаю Промбюро, а дзе яго няма—ВРНГ.

2. Паколькі зьдзелкі адбываюцца між трэстаў і дзяржаўных органаў, занаражваньне можа адбывацца толькі ў межах бюджэтных назначэньняў.

3. Адначасна з занаражваньнем выплата можа быць асабістаю пастановаю РПА або Экнар'ы той ці іншай Саюзнай Рэспублікі адтэрмінаваны, але не далей канца опэрацыйнага году, калі й адбываецца канчатковы разрахунак трэсту з дзяржаўнаю скарбніцаю.

46. Пры куплі й прадажы трэсты павінны пры іншых неаднальковых умовах даваць пераважнасьць дзяржаўным органам і коопэратыўным злучэньням, якія выступаюць у якасьці контрагентаў.

### VIII. Ліквідацыя.

47. Трэст вызначаецца да ліквідаваньня пастановай ГРНГ (КРНГ), зацьверджанай водлуг згоды Губэкнар'ы з Промбюро, а дзе яго няма—ВРНГ. Рознагалосьсе між Губэкнар'ай і Промбюро разьвязваюцца Краіннаю Эканамічнаю Нарадаю і ВРНГ—Экнар'аю той ці іншай Саюзнай Рэспублікі.

Ліквідацыя адбываецца ў выпадках:

А) Паменшаньня статутнага капіталу на $^{2}/_{3}$, калі ня будзе лічыцца патрэбным папаўненьне капіталу з другіх крыніц або адпаведна паменшаньню статутнага капіталу водлуг арт. 12.

Б) Ня выстарчэньня зваротных сродкаў трэсту на пакрыцьцё даўгоў, якія паданыя на спагнаньне.

В) Прызнаньня ня мэтазгодным далейшага істнаваньня гэнага трэсту.

48. Ліквідаваньне ўтвараецца назначанаю ГРНГ (КРНГ) ліквідацыйнай камісіяй, з удзелам прадстаўніка адпаведнага профсаюзу й Губ. Аддзелу Грашовых Спраў у тэрмін, вырашаны ГРНГ (КРНГ) з зацьверджаньня Губэкнар'ы, але не далей паловы году ад часу агалашэньня. Пастанова аб ліквідацыі і назначэньні ліквідацыйнае камісіі друкуецца належным чынам. Маемасьць, якая застаецца пасьля ліквідаваньня, пераходзіць пад загад ГРНГ (КРНГ) і на ўчот Губаддзелу Граш. Спраў.

Увага: Пры ліквідацыі трэсту водлуг § «б» арт. 47 Губэрскі Суд, згодна з прозьбаю крэдытораў па мейсцу быцьця Кіраўніцтва трэсту можа назначыць прадстаўніка іх інтэрасаў у ліквідацыйную Камісію.

### IX. Аб зьдзейсьненьні гэтага дэкрэту.

49. Гэты дэкрэт зьдзейсьняецца ад часу яго агалашэньня ў друку пры чым з моманту надрукаваньня ні адзін мяйсцовы трэст ня можа быць арганізаваным накш, як водлуг кірунку гэтага дэкрэту.

Усе істнуючыя мяйсцовыя трэсты павінны не пазьней 4-х месяцаў ад часу надрукаваньня гэтага дэкрэту зарэгістравацца, а палажэньні аб іх павінны замяніцца зацьверджанымі згодна з гэтым законам статутамі. У асабістых выпадках ВРНГ можа асабістаю пастановаю працягнуць паказаны тэрмін на два месяцы.

*Нам. Старшыні Рады Народных Камісараў Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраўнік Справаў РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 30. Аб з'іначаньні сыстэмы акцызнага аблажэньня табаковых выробаў.

Зьменаю пастановы 21 верасьню 1922 г. (З. У. 1922 г. арт. 768) і ў разьвіцьцё п. 1 А арт. 1 пастановы 19 красавіку 1923 г. (Изв. ВЦИК'ау 20 красавіку 1923 г.)— Рада Народных Камісараў **пастанауляе:**

1. Намест аблажэньня акцызам жоўтай (не махоркавай) лістовай табакі, якая перадаецца з кладоўкі на фабрыку для перапрацоўкі, — устанавіць аблажэньне акцызам гатовыя выробы (раскурную табаку і папяросы), з падзелам кожнага з гэтых відаў выробаў на тры сорты, гатункі—вышэйшы, першы і другі.

2. Устанавіць стаўкі акцызу па раскурную табаку й папяросы мяйсцовае вытворчасьці ў наступных памерах і у залатым вылічэньні:

а) раскурная табака (не махорка) вышэйшага сорту— па два рублі семдзесят пяць капеяк з фунту, першага сорту—па аднаму рублю шэсьдзесят капеяк з фунту й другога сорту—па аднаму рублю з фунту,

б) папяросы—вышэйшага сорту па пяць рублёў з тысячы шт., першага сорту—па два рублі семдзесят капеяк з тысячы і другога сорту па аднаму рублю сорак капеяк з тысячы.

3. Пры выплаце акцызу ў паказаных у арт. 2 памерах выплачаны акцыз павінен складаць у сярэднім ня менш аднаго рубля пяцьдзесят капеяк за адзін фунт раскурнае табакі й двух рублёў пяцьдзесят капеяк за адну тысячу папярос.

4. Акцыз з папярос спаганяецца ў зацьверджаным ардынарным памеры толькі з тэй умовай, калі вага табакі ў тысячы штук іх ня пераходзіць наступных абмяжаваньняў: для папярос вышэйшага сорту—$1^3/_4$ ф., для папярос першага сорту—$1^1/_2$ ф. і для папярос другога сорту—$1^3/_4$. За папяросы вышэйшага сорту вагого ад $1^3/_4$ да $3^1/_2$ ф., першага сорту ад $1^1/_2$ да 3 ф. і другога сорту ад $1^1/_2$ да $2^1/_2$ ф.—акцыз спаганяецца ў падвойным памеры адпаведнай яго стаўкі. Выроб папярос, перавышаючых вагою паказаныя вышэй для адпаведных сартаў абмяжаваньні $3^1/_2$, 3 і $2^1/_2$ ф.,—забараняецца.

5. Пры пераўчоце табаковых выробаў, якія знойдуцца ў таварных складох і завядзеньнях да часу ажыцьцяўленьня гэтае пастановы, для аблажэньня іх у памеры адлічкі між на нова зацьверджанымі і старымі стаўкамі акцызу, раскурная табака (не махорка) і папяросы, якія выпушчаны да ажыцьцяўленьня гэтае пастановы пад назваю ўстаноўленых у гандлі ўселякіх Сартоў, адносяцца да гэтым устаноўляным вышэйшаму, першаму і другому сартам, на падставе ўлагоджаньня Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў с Вышэйшаю Радаю Народнае Гаспадаркі.

6. Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў даручаецца выдаць пасьля ўлагоджаньня з Вышэйшаю Радаю Народнае Гаспадаркі інструкцыі дзеля ўжываньня гэтае пастановы.

7. Тэрмін ажыцьцяўленьня гэтае пастановы ў пасобных мяйсцох вырашаецца НКГС і агалашаецца ў »Изв. ЦИК СССР и ВЦИК».

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраўнік Справаў РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 Ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 31. Аб пашырэньні мяйсцовага падатку з біржавых зьдзелак на вонках-біржавыя зьдзелкі, якія рэгіструюцца на біржы.

Знайхадзячы патрэбным мяйсцовы падатак з біржавых зьдзелак пашырыць на вонках-біржавыя зьдзелкі, якія рэгіструюцца на біржы, Рада Народных Камісараў ССР **пастанавіла:**

I. п. 17-ы разьдзелу А пастановы УЦВК і РНК ад 29 жніўня 1923 г. аб з'іначаньні пералічэньня мяйсцовых падаткаў і збораў (З. У. 1922 г. арт. 696) вытлумачыць у наступнай рэдакцыі:

„Падатак ад уселякага гатунку зьдзелак, якія ўтвараюцца або рэгіструюцца на біржы ў памеры ня больш двух дзесятых процанту з сумы зьдзелкі“.

Увага. Гэта пастанова пашыраецца толькі на тыя вонках-біржавыя зьдзелкі, рэгістрацыя якіх на біржы абавязкова, згодна пастанове Рады Працы і Абароны ад 1 верасьня 1922 году (Зборн. Узак. 1922 г. арт. 719).

II. п. 22-і разьдзел IV пастан. УЦВК і РНК аб прыбытках, якія зьвяртаюцца на засіленьне мяйсцовых сродкаў, ад 16 лістападу 1922 г. (З. У. 1922 г. арт. 957) вытлумачыць у наступнай рэдакцыі.

„Падатак з біржавых і падлеглых абавязковаму рэгістраваньню на біржы вонках-біржавых зьдзелак".

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 32. Аб папарадку выкарыстаньня ауто мототранспарту установамі й прадпрыемствамі, якія знаходзяцца на дзяржауным бюджэту.

Рада Народных Камісараў СССР **пастанавіла:**

1. Абавязаць усе ўстановы і прадпрыемствы, якія знаходяцца на дзяржаўным бюджэту, абцаніць і залічыць у іх інвэнтарныя рэестры ўвесь належачы да іх аўто-мото-транспарт.

2. Абавязаць НКШЗ (па ЦУМТ'у), НКГС і НКРСІ вырашыць, пры ўдзеле зацікаўленых Наркаматў, штаты аўто-мото-транспарту для ўстановаў, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэту.

3. Забараніць паказаным у арт. I-м установам і прадпрыемствам эксплётацыю належачага да іх аўто-мото-транспарту на вольным рынку.

4. Дазволіць установам і прадпрыемствам, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэту, водлуг згоды з Камісіяй Дзяржаўных Фондаў, утвараць прадажу належачага да іх аўто-мото-транспарту на падставе агульна вызначаных правілаў аб парадку прадажы дзяржаўнае маемасьці, з далейшым рэгістраваньнем гэных опэрацыяў у органах НКШЗ.

5. Атрыманыя ад прадажы аўто-мото-транспарту, належачага да установаў, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэту, сумы залічыць у прыбытак дзяржаўнае скарбніцы па каштарысу гэтае установы.

6. Выпрацаваньне інструкцыі наконт ужытку гэтае пастановы даручыць НКШЗ.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 Ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 33. Аб папяросных майстэрнях.

Рада Народных Комісарау Саюзу ССР **пастанавіла:**

Арт. 2-гі дэкрэту УЦВК і РНК ад 1-га сакавіка 1923 г. (З. У. 1923 г. арт. 218) аб папяросных майстэрнях — Скасаваць.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 34. Аб атрыманьні дзяржаунаю скарбніцаю мытных паборау.

Выняткам з арт. 1-га пастановы УЦВК і РНК ад 8 лютага 1923 г. аб мерах да забязпячэньня атрыманьня дзяржаўнаю скарбніцаю мытных (таможенных) прыбыткаў (З. У 1923 г. арт. 143) часова даць прадпрыемствам нафтавай прамысловасьці права атрыманьня з Бакінскае мытніцы рэчаў адзежы і тэхноматар'ялаў, якія прыходзяць з-за межаў на аселасьць паказаных прадпрыемстваў, з далейшай уплатай належных увозных мытных пабораў наяўнымі ў Маскве па курсу дня разрахунку. Тэрміны, ў якія павінна адбыцца уплата належнага мыту, вызначаецца водлуг згоды НКГС з НКЗГ і ВРНГ (па ГУМытніц).—

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 35. Аб камандыроуцы т. Папова на XV сэсію Міжнароднага Статыстычнага Інстытуту.

Лічачы патрэбным удзел дэлегату Саюзу ССР у працы XV-ц Сэсіі Міжнароднага Статыстычнага Інстытуту, якая мае быць 1-га кастрычніку гэтага году у г. Брюсьселю.

Рада Народных Камісараў **пастанавіла:**

Назначыць дэлегатам Расійскага Ураду на XV сэсію Міжнароднага статыстычнага Інстытуту кіраўніка цэнтральнай статыстычнай управай П. І. Папова.

Адкамандыраваць т. Папова і двох асобаў водлуг яго назначэньню ў якасьці сэкратароў пры дэлегату ў г. Брюсьселі на ўвесь час сэсіі міжнароднага статыстычнага інстытуту й прапанаваць НКГС выдаць пад загад т. Папова патрэбныя сродкі.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справоу РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

13 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 36. Пастанова Рады Народных Камісарау Саюзу ССР—аб крэдытах па утрыманьню фабзавкомау.

У дадатак да пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ад 26-га жніуня 1922 году (З. У. 1922 г., 693), Рада Народных Камісараў Саюзу ССР пастанавіла:

Крэдыты на выдаткі па ўтрыманьню фабзавкомаў, мяйсцкомау і дэлегатскага інстытуту, які іх зьмяняе, водлуг каштарысаў усіх ведамстваў на 1923 г. выразаваць у памеры 1% ад аснаўной заробачнай платы, а для Транспарту ў памеры ½%.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 ліпеня—1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 37. Пастанова Рады Народных Камісарау Саюзу ССР аб камісіі па сельска гаспадарчаму падатку у УССР.

Дзеля набліжэньня тэрміну вызначэньня разрадаў абкладу водлуг выробу (продукцыі) для губэрняў УССР (арт. XIV дэкрэту Ўсеўкраінскаго ЦВК і РНК УССР аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку) і ў адпаведнасьці з арт. 14 дэкрэту УЦВК і РНК РСФСР аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку, Рада Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляе:

Даручыць Камісіі ў складзе Народнага Камісара Харчовых Спраў Н. П. Бруханова, Намесьніка Народнага Камісара Грашовых Спраў М. К. Владзімірава й т. Пашкоўскаго (з правом намесьніцтва т. Віхляева) падарожу ў Харкаў і падаць гэтай Камісіі, пасьля выяўленьня на мейсцы поглядаў на ўроду і іншых патрэбных довадаў, разгледзіць расцісаньне разрадаў водлуг продукцыі і % зьбіраньня грошы й натуры з паасобных губэрняў УССР, падаўшы, пасьля пагаджэньня РНК УССР, вынікі разгляду тэлеграфам на зацьверджаньне РНК Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 ліпеня—1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 38. Аб павялічэньні каэфіцыэнтау дзеля транспартных тарыфау.

1. Устанавіць на тэрмін ад 16 да 31-ага ліпеня г.-г. уключна дзеля вылічэньня платы за праез пасажыраў на чыгунках каэфіцыэнт 80, а дзеля вылічэньня платы за правоз багажу і грузаў на чыгунках, а таксама памеру дадатковых і іншых збораў, зьбіраемых на тых жа дарогах,—каэфіцыэнт 115.

2. Устанавіць на тэрмін з 1 па 31 жніўня г. г. уключна дзеля вылічэньня платы за праезд пасажыраў па ўнутранным водным (рачным) і марскім дарогам каэфіцэнт 70, а дзеля вылічэньня платы за правоз багажу і грузаў па тым жа дарогам, апрача р. Волгі і яе прытокаў а таксама дзеля дадатковых і другіх збораў—каэфіцыэнт 105. Дзеля вылічэньня платы за правоз багажу і грузаў на р. Волзе і яе прытоках, а таксама дзеля дадатковых і другіх, зьбіраемых на гэтых дарогах, устанавіць каэфіцыэнт 90.

3. Гэту пастанову ўвясьці у дзейнасьць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справамі РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 39. Аб забароне ўтварэньня лотэрэяў.

Рада Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіла:**

Зьменаю пастановы РНК ад 26-го траўня 1922 г. і 31-га траўня 1923 г., ўтварэньне ад гэтага часу якіх-колечы лотэрэяў як цэнтральнымі, так і мясцовымі органамі бязумоўна забараняецца на ўсей тэрыторыі Союзу ССР да 1-га студзеня 1924 г.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 ліпеня—1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 40. Зацьверджаньні на пасадах:

1.

Рада Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіла:** Зацьвердзіць Кіраўніком Справаў РНК Саюзу ССР тав. **Гарбунова Н. П.** і сэкратара РНК Саюзу ССР тав. **Фоціеву Л. А.**

2.

Рада Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіла:** Назначыць Хрыстана Юркавага Ракоўскага намесьнікам Народнага Камісара замежных спраў, паўнамоцным прадстаўніком Саюзу ССР ў Вялікабрытаніі і старшынёй Лёнданскага концэсыйнага камітэту.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

3.

Рада Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіла:** Назначыць Мікалая Іваанава Іарданскага Паўнамоцным Прадстаўніком Саюзу ССР ў Італіі.

*Нам. Старшыні РНК Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноу.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

16 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Рады Працы і Абароны
## Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

### 41. Аб становішчы працы на Сямірэччанскай чыгунцы.

Рада Працы і Абароны **пастанавіла**:

1 Паданае Часоваму Кіраўніцтву Сямірэччанскай чыгункі пастановаю РПА ад 15 сьнежня 1922 г. права вытвараць гандлёвыя і прамысловыя опэрацыі, дзеля мэты павялічваньня коштам прыбыткаў будаўнічых фондаў чыгункі, — пашырыць паданьнем яму права прыцягваць да паказаных опэрацыяў прыватны капітал і ўтвараць самастойныя гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы пад умовай абавязковага адлічэньня акрэсьлянай часткі прыбытку на будаўнічыя патрэбы Сямірэччанскай чыгункі.

2. Для рацыянальнага наладжаньня гандлёвых опэрацыяў дазволіць Часоваму Кіраўніцтву чыгункі ўтварыць з зацьверджаньнем статуту ў Кам. хатняга Гандлю (Комвнуторге) падручнае таварыства для гандлёвых опэрацыяў пад назваю „Семірэчторг“.

3. Дзеля мэты падойму эканамічнае каштоўнасьці Сямірэччанскай чыгункі і павялічваньня яе грузазвароту ў будучыне, даручыць Часоваму Кіраўніцтву паклапаціцца вышуканьнем і ўключэньнем у гаспадарчы комбінат чыгункі ўселякіх маемасьцяў у выглядзе зямельных кавалкаў, засяўных плошчаў, гарняцкіх каштоўнасьцяў і г. д.

4. Дазволіць Часоваму Кіраўніцтву Сямірэччанскай чыгункі для аплаты перавозу будаўнічых матар‘ялаў, а так сама для засіленьня зваротных сродкаў падсобнай гандлёвай чыннасьці, рэалізаваўшы належачыя т-ву матар‘ялы на суму 200.000 залатых рублёў пад умовай:

а) што вызначаная маемасьць і матар‘ялы зьяўляюцца збытковымі для пабудаваньня Сямірэччанскай чыгункі (на працягу ад ст. Аўліэ-Ата-Пішпек).

б) калі яны водлуг якасьці і водлуг умоваў транспарту ня могуць быць скарыстанымі на будаўніцтва гэнага кавалку чыгункі.

в) сьпіс матар‘ялаў, якія належаць рэалізацыі, павінен быць санкцыанаваны перад ВРНГ.

*Нам. Старшыні Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Сэкратар Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

### 42. Аб зьмене й дапауненьні інструкцыяу аб парадку узвароту спажывецкай коопэрацыі належачых ей прадпрыемстваў і прамыслоу.

Зьменаю й дапаўненьнем інструкцыяў аб парадку ўзвароту Спажывецкай коопэрацыі належачых ей прадпрыемстваў і прамыслоў (З. У. 1922 г. № 39 ст. 446; № 56 ст. 699). Рада Працы і Абароны Саюзу ССР пастанавіла;

1. Пункт 13-ы памянёнае інструкцыі вытлумачыць у наступнай рэдакцыі:

«Паказаныя ў гэтай інструкцыі мяйсцовыя мяшаныя камісіі закладаюцца пры Губэрскіх ці Краінных Эканамічных Нарадах у складзе: старшыні водлуг выбраньня Губ або Краін.-Эканаміч. Нарады і прадстаўнікоў па аднаму ад зацікауленых установаў і губэрскага Хаўрусу Спажывецкіх Таварыстваў.

Пастановы мяйсцовых камісіяў могуць быць абжальбаванымі ў 2-х тыднёвы тэрмін у Цэнтральную Мяшаную Камісію пры Радзе Працы і Абароны ў складзе Старшыні, зацьверджанага РПА і прадстаўнікоў па аднаму ад зацікаўленых установаў і Усерасійскага Цэнтральнага Хаўрусу (Саюзу) Спажывецкіх Таварystваў.

Вырашэньні Цэнтральнае Мяшанае Камісіі зьяўляюцца канчатковымі і могуць быць абжальбаванымі ў РПА

толькі ў выпадку парушэньня вырашэньнем ЦМК пастановаў закону або гэтае інструкцыі.

Паданьнем жалабы ў РПА не спыняецца правядзеньне ў выкананьне вырашэньне Цэнтральнае Мяшанае Камісіі.»

2. Увесьці у інструкцыю пункт 14-ы:

«Невыкананьне з боку прадстаўнікоў дзяржаўных установаў і дзяржаўных прадпрыемстваў пастановаў Цэнтральнае Мяшанае Камісіі або набыўшых законную сілу пастановаў мяйсцовых мяшаных камісіяў, а так сама адмова ўтварыць мяшаную камісію мяйсцовую—караецца водлуг арт. арт. 105, 107, 110 Карачыннага Кодэксу РСФСР.»

3. Увесьці ў інструкцыю пункт 15-ы:

«Чыннасьць гэтае інструкцыі пашыраецца на ўсе аўтаномныя рэспублікі РСФСР, але ў іх мяйсцовыя мяшаныя камісіі ўтвараюцца пры Губ. і Краінных Эканамічных Нарадах і жалабы на іх вырашэньні падаюцца агульным парадкам у ЦМК пры Радзе Працы і Абароны.»

*Нам. Старшыні Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Сэкратар Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 43. Аб допушчэньні транспартна-экспэдытарскіх опэрацыяу пры мытніцах Саюзу ССР.

Зьменаю існуючага ў гэты час парадку дапушчэньня транспартна-экспэдытарскіх прадпрыемстваў да выкананьня транспартна-экспэдытарскіх опэрацыяў пры мытніцах—Рада Працы і Абароны Саюзу ССР пастанавіла.

Прапанаваць Галоўнай Мытнай Управе дапушчаць да выкананьня транспартна-экспэдытарскіх опэрацыяў над вывазнымі й прывазнымі грузамі пры ўсіх мытніцах Саюзу ССР транспартна-экспэдыцыйныя й комісійныя прадпрыемствы, якім водлуг статуту іх вытвор гэткіх опэрацыяў дадзены без заключэньня на тое якіх-колечы ўмоваў з мытніцамі, пры ўмове абавязковае падачы памянёнымі прадпрыемствамі належных даручэньняў (на год ці на раз) ад разпарадчыкаў грузамі.

*Нам. Старшыні Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

*Сэкратар Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 44. Зацьверджаньні на пасадах.

Рада працы і Абароны пастанавіла:

Назначыць Сэкрэтаром РПА Саюзу ССР тав. Фоціеву Л. А., намесьніцай яе—тав. Фляксерман С. А.

*Нам. Старшыні Рады Працы і Абароны Саюзу ССР* **Л. Каменеу.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Главлит № 12726. Тираж 5000 экз.

„Мосполиграф"—20 я типография „Красный Пролетарий", Пименовская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР.

**НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ и ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.**

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі доводамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-91.

ПРАДАЖА ВЫДАНЬНЯЎ ВЯДЗЕЦЦА
ПРАЗ ЮРЫДЫЧНАЕ КНІГАВЫДАВЕЦТВА НКЮ.
МАСКВА, Раждзественка, 9.